• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

6 лютага 1996 г.
аўторак, №№ 34-35
(22837—22838)




# ЗВЯЗДА

## ПРЭЗІДЭНТ І ГЕНЕРАЛЬНЫ САКРАТАР АБМЕРКАВАЛІ ПРАБЛЕМЫ ІНТЭГРАЦЫІ

**По шэрагу актуальных пытанняў, якія закранаюць дзейнасць Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў—удзельніц СНД, праінфармаваў Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку яе генеральны сакратар Міхаіл Кротаў. Іх сустрэча адбылася ў Мінску 5 лютага.**

У прыватнасці, размова ішла аб новым статусе МПА, падрыхтоўцы да яе чарговага пасяджэння 16-17 лютага ў Санкт-Пецярбургу, аб заканадаўчым забеспячэнні рэалізацыі пагадненняў на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці.

Аляксандр Лукашэнка ў сваю чаргу выказаў шэраг пажаданняў па ўдасканаленню работы МПА. Ён адзначыў неабходнасць ажыццяўлення практычных мераў па заканадаўчаму забеспячэнню паглыблення палітычнай, эканамічнай, ваенна-палітычнай інтэграцыі дзяржаў СНД, па ўдасканаленню заканадаўства ў гуманітарнай сферы, збліжэнню эканамічнага заканадаўства, па паляпшэнню інвестыцыйнай палітыкі. Ён закрануў таксама тэму каардынацыі сумесных пазіцый краін Садружнасці на міжнароднай арэне адносна прадухілення расшырэння НАТО на Усход, праблему барацьбы з міжнародным тэрарызмам і інш.

Міхаіл Кротаў уручыў у якасці падарунка беларускаму Прэзідэнту мадэльны Грамадзянскі кодэкс, распрацаваны вядучымі юрыстамі дзяржаў СНД, прапанаваў прыняць удзел у пасяджэнні Міжпарламенцкай асамблеі.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСКІ І РАСІЙСКІ СПІКЕРЫ ДАГАВАРЫЛІСЯ АБ СУСТРЭЧЫ

**Наведаць Мінск з афіцыйным візітам запрасіў дэлегацыю Дзяржаўнай думы Расіі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі. Гэта запрашэнне перададзена 5 лютага ў час яго тэлефоннай размовы з кіраўніком Думы Генадзем Селязнёвым. Яно было прынята расійскім бокам.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Вярхоўнага Савета, кіраўнікі парламентаў дзвюх краін абмяняліся прывітаннямі і віншаваннямі з нагоды свайго выбрання на высокія пасады. Яны выказалі надзею на больш паглыбленае супрацоўніцтва вышэйшых заканадаўчых органаў Беларусі і Расіі, дагаварыліся аб правядзенні рэгулярных сустрэч і кансультацый.

**БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ЛІЧЫЦЬ МАГЧЫМЫМ СТВАРЭННЕ НА АСНОВЕ БЕЛАРУСІ І РАСІІ САЮЗА БОЛЬШ МАГУТНАГА, ЧЫМ СССР

У Адміністрацыі Прэзідэнта рыхтуюцца прапановы па змяненню Канстытуцыі Беларусі. Пра гэта заявіў Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 2 лютага ў прамым эфіры расійскага радыё-1 «Останкино». У прыватнасці, па яго словах, гэтыя прапановы будуць тычыцца ролі Канстытуцыйнага суда. Калі Вярхоўны Савет не захоча прыняць прапанаваныя папраўкі, сказаў А. Лукашэнка, то пытанне аб унясенні іх у Канстытуцыю будзе вынесена на ўсенародны рэферэндум.

Гаворачы аб перспектывах узаемаадносінаў Беларусі і Расіі, Прэзідэнт нашай краіны назваў магчымым стварэнне такога саюза дзвюх дзяржаў, якога не бачыў свет, яшчэ больш магутнага, чым Савецкі Саюз. Расія, па словах А. Лукашэнкі, без рэспублік былога СССР — як тулава без ног, без рук і без галавы. У галіне эканомікі, лічыць кіраўнік беларускай дзяржавы, пры развіцці двухбаковых адносінаў трэбаісці шляхам стварэння сумесных прадпрыемстваў і фінансава-прамысловых груп. У якасці станоўчага прыкладу ў гэтым сэнсе ён прывёў стварэнне такіх груп на базе Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў. А. Лукашэнка пацвердзіў інфармацыю, якая была перададзена раней па каналах БелаПАН, аб плануемай ім у лютым паездцы ў Цюменскую вобласць Расіі і аб перамовах там з кіраўніцтвам расійскіх нафтавых кампаній.

На думку беларускага Прэзідэнта, без нашай рэспублікі Расія не зможа забяспечыць сваё прыкрыццё з Захаду. Але і беларускае войска будзе «непаўнацэнным і куртатым» без супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй. А. Лукашэнка заявіў, што пазіцыі Беларусі і Расіі адносна пашырэння НАТО на Усход супадаюць. Больш таго, ён дадаў, што інфраструктура НАТО ўжо з'явілася ля беларускіх межаў і сёння вядзецца назіранне за ўсімі войскамі, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, у тым ліку за расійскімі.

**Сяргей ЛІТВІН, БелаПАН.**

### Сямён Шарэцкі пагутарыў з чытачамі «Звязды»

Учора ў рэдакцыі «Звязды» на працягу дзвюх гадзін Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі адказваў на пытанні чытачоў газеты. Паступіла каля 40 званкоў, на іх Сямён Георгіевіч даў грунтоўныя адказы. А яшчэ папярэдне ў рэдакцыю на яго імя паступіла амаль 100 пісьмаў.

На ўсе пытанні, пісьмовыя запыты будуць дадзены адказы на старонках «Звязды».

Дарэчы, Старшыня Вярхоўнага Савета згадзіўся рэгулярна, кожны месяц удзельнічаць у «прамых лініях» у рэдакцыі газеты «Звязда».

## У ДАКЛАДЗЕ СУСВЕТНАГА БАНКА БЕЛАРУСЬ АДСУТНІЧАЕ

На думку Сусветнага банка, доля ўсіх еўрапейскіх краін у агульным аб'ёме інвестыцый няўхільна зніжаецца.

Пры гэтым штогадовы сумарны аб'ём інвестыцый складае 2 трлн. USD. У літаральным сэнсе рэкі замежнага капіталу «хлынулі» ў Польшчу. Калі раней наша блізкая заходняя суседка атрымлівала штогод ад 400 да 700 млн. долараў, то ў 1995-м фінансавым годзе замежныя інвестыцыі склалі 1,7 млрд.

Такія істотныя ўліванні ў эканоміку Польшчы абумоўлены тым, што таварны рынак збыту гэтай краіны па многіх пазіцыях ужо можна параўнаць з аналагічным рынкам Галандыі — найбольш спрыяльнай у гэтых адносінах краіны сярод іншых дзяржаў Цэнтральнага і Усходняга еўрапейскіх рэгіёнаў. У гэтым годзе Польшча правяла серыю рэзультатыўных перагавораў з Лонданскім і Парыжскім клубамі і дабілася цалкам апраўданай добразычлівай увагі замежных інвестараў. Акрамя таго, яшчэ ў 1990 г. Польшча дабілася скасавання сваіх знешніх даўгоў. Для астатніх краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы агульная карціна па аб'ёму прыцягнення замежнага капіталу выглядае наступным чынам: па 1,2 млрд. USD атрымалі Венгрыя і Расія, каля 1 млрд. USD — Чэхія, 1,5 млрд. USD — іншыя краіны.

Якія ж шанцы ў атрыманні замежных інвестыцый у Рэспублікі Беларусь?

Вось што думае наконт гэтага віцэ-прэзідэнт інстытута прыватызацыі і менеджменту, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ Павел Данейка: «Беларусь на фоне канкурэнтаў выглядае не лепшым чынам. Напрыклад, у штогадовым дакладзе Сусветнага банка наша рэспубліка нават не ўключана ў пералік дзяржаў, якія прыцягваюць замежныя інвестыцыі. Для параўнання: Харватыя ў апошнім дакладзе адзначаецца з нулявым паказчыкам. У адносінах да Беларусі іншыя міжнародныя даведнікі гэтак жа аднадушныя. Паводле некаторых даных, сумарны аб'ём паступіўшых у Беларусь інвестыцый складае 400 млн. USD. Заходнія эксперты не лічаць Беларусь выгадным плацдармам для выхаду на іншыя рынкі, а значыць, і не прызнаюць прывабным рэгіёнам для інвесціравання».

Усе гэтыя характарыстыкі, і не толькі станоўчыя, датычацца і Венгрыі. Яшчэ адзін міф наконт Беларусі — транзітныя пошліны. У ходзе апытання прадстаўнікоў больш як чатырохсот замежных і сумесных прадпрыемстваў толькі 17 працэнтаў рэспандэнтаў адказалі, што іх цікавяць мытныя адносіны паміж краінамі. Астатнія ў першую чаргу звяртаюць увагу на параметры эканамічнага стану краіны, куды накіроўваюцца інвестыцыі.

Адзіным выйсцем для прыцягнення ў эканоміку Беларусі салідных капіталаўкладанняў, на думку Паўла Данейкі, з'яўляецца «стварэнне ў краіне выдатных па прывабнасці ўмоў для прадпрымальнікаў». Тут істотным фактарам будзе служыць працэс выканання падпісанай Прэзідэнтам Беларусі праграмы прыватызацыі на 1996 год, якая на гэтым этапе можа разглядацца як адзіная гарантыя незваротнасці праводзімых рэформаў у краіне.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### ІДЭІ І ЛЮДЗІ



**Васіль СТАРАВОЙТАЎ,**
**старшыня савета акцыянернага таварыства «Аграпрамысловае аб'яднанне «Рассвет»**

***«Крэда майго жыцця— рабіць людзей шчаслівымі ў любыя часы. Як бы гэта дорага мне ні каштавала»***

Матэрыял чытайце на 6-7 стар.

## РЭДКАЯ СПРАВА: ЗАРОБАК ВЫДАЕЦЦА, ШТАТ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

**Буйное беларускае аб'яднанне «Мінскпраектмэбля», якое налічвае 860 работнікаў, працавала ўвесь 1995 год, план вытворчасці выкананы, сярэдні заробак на пачатак 1996 года склаў 1620 тысяч рублёў.**

«Аб'яднанне займае 3-е месца па заробку ў нашай галіне, — гаворыць Соф'я Чэкан, старшыня прафсаюзнага камітэта «Мінскпраектмэблі», — акрамя таго, прафсаюз дае магчымасць працоўным адпачыць, аказвае матэрыяльную дапамогу, — усе сацыяльныя льготы, што мы закладвалі ў калектыўны дагавор, мы прыцягваем забяспечваць. Зараз працуем над палажэннем аб аказанні безвыплатнай дапамогі работнікам, якія будуць набываць ці будаваць жыллё».

Дарэчы, Соф'я Уладзіміраўна паведаміла, што напрыканцы 1995 года на аб'яднанні адкрылі эксперыментальны ўчастак і тут залічылі дадаткова каля 20 чалавек.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ.**

## НАЗНАЧЭННІ І АДСТАЎКІ

Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначаны: **Зайчанка** Мікалай Пятровіч — намеснікам міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь; **Енін** Юрый Іванавіч — намеснікам міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за ненадлежное кіраўніцтва галіной, якое выявілася ў непрыняцці неабходных мераў па перадаленню спаду вытворчасці ў прамысловасці, **Куранкоў** Уладзімір Іванавіч вызвалены ад пасады міністра прамысловасці Рэспублікі Беларусь (п.2, арт. 33 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛТА.**



### — КРАМА АНТЫРЭКЛАМЫ —

# Пасадзіце «Корпак» у ягоны ж біплан і...

Некаторыя знаёмыя сцвярджаюць, што рукі ў мяне, дарослага мужчыны, бацькі двух дзяцей, быццам бы з патрэбнага месца растуць. Гэта значыць, што штосьці магу і сам зрабіць, не звяртаючыся да спецыялістаў з-за нейкай любой дробязі. Пацху і сына вучу, уцямліваю яму ў галаву, што імкнуцца ўмець усё рабіць абавязкова трэба, за плячыма гэта, як кажуць, не насіць, а ў жыцці ўсё спатрэбіцца можа.

Праўда, пра вялікія зрухі-удачы ў гэтым плане нам гаварыць яшчэ рана, хлопец толькі ў першы клас хадзіць, але, здаецца, нешта пачынае заставацца ў галаве Кірылавай, адкладаецца ў памяці сына, штосьці спрабуе ён ужо сваімі рукамі зрабіць-сканструяваць. Таму, калі ён пайшоў з маці ў горад і вярнуўся з магазіна з пакупкай-падарункам, не здзівіўся, што школьнік мой не гатовую цацку выбраў, а так званы «Самалёт «Вучэбны біплан пластмасавы зборны». Выпускае яго, як высветлілася з выхадных даных, ЗАТ «Корпак» (220004, г. Мінск, вул. Кальварыйская, 24, ЗАТ «Корпак») — і гэтую фірму і я, і сын, запомнім надоўга. Бо вельмі ўжо шмат «прыязных» уражанняў пакінула пасля сябе як зборка, так і «шматздзённае» існаванне пэўнага падабенства лятальнага апарата.

Хаця напачатку падалося, што ніякіх праблем перад намі пры «даводцы-ажыўленні» біплана не паўстане, тым больш, што прыкладалася цудоўная схематычна-падрабязная інструкцыя. Але даступна намаляваць, аказваецца, гэта яшчэ не азначае і выпусціць «паўфабрыкат» так, каб кожная дэталька адпавядала свайму прызначэнню, каб кожнае мацаванне дакладна трапляла ў патрэбную дзірачку, падыходзіла па памеры і г. д. Так што, пранервававшыся ўвесь вечар, «асалоду» з малым мы вялікую атрымалі ад падарунка. Пасля зборкі дзіця нават і гуляцца з самалёцікам не схацела. Ды і потым, калі «адтала» і пачало спрабаваць «лётаць», цацка гэтая лічаныя дні праіснавала, вельмі хутка ў пластмасавы «металалом» ператварылася.

Як разумееце, не выкінутых «зайцоў» шкада — справа ў іншым. Таму без аніякіх натацый-маралі хацелася б пачуць ад вытворцаў адказ — толькі шчыры! — усяго на адзінае пытанне: ці куплялі яны ўласную прадукцыю сваім дзецям? Калі падобнае ўсё ж здарылася — у што не надта верыцца — цікава, ці пачулі яны ад малых словы падзякі за той самы «вучэбны біплан»?

Ва ўсякім разе, я, не чакаючы нават адказу, пакупнікоў будучых гэтай прадукцыі хачу засцерагчы ад памылкі: не трэба шукаць ні сабе, ні сваім дзецям прыгод. Не паслухаецеся, прыдбаеце — сабе ж даражэй будзе...

**Віталь КУЛАКОЎ.**



## Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ:

# «МАНАПОЛІІ НА СМІ БЫЦЬ НЕ ПАВІННА»

***Сам факт з'яўлення ў саставе пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі падкамісіі па СМІ і сувязях з грамадскімі арганізацыямі сведчыць, што сённяшні парламент удзяляе значна большую ўвагу гэтай сферы грамадскага жыцця. Пэўна, не ўсё гладка сёння ў адносінах паміж газетамі і ўладамі, паміж Вярхоўным Саветам і нацыянальнай тэлерадыёкампаніяй, паміж журналістамі і чытачамі, якім нярэдка прыходзіцца высвятляць адносіны ў судзе. Вось аб гэтым і пайшла гутарка на сустрэчы са старшынёй памянёнай падкамісіі Аляксандрам Дабравольскім.***

**— Аляксандр Альгертавіч, якая спадчына засталася вам ад камісіі па галоснасці, што дзейнічала ў Вярхоўным Савеце XII склікання?**

— Я не сказаў бы, што вялікая. Па-першае, застаўся Закон аб друку, які дзейнічае зараз. Па-другое, нашы папярэднікі падрыхтавалі законапраект аб тэлебачанні і радыёвяшчанні, які мы зараз будзем абмяркоўваць і выносіць на разгляд Вярхоўнага Савета, а таксама законапраект аб другім тэлевізійным канале. Ужо зараз магу адзначыць, што закон аб тэлебачанні і радыё цяжка будзе прыняць у ранейшым выглядзе, бо жыццё пастаянна ўносіць свае карэктывы: і грамадства, і СМІ апынуліся ў крыху іншых абставінах. Галоўная мэта сёння — не дапусціць манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі і, у прыватнасці, тэлебачання і радыёвяшчання.

**— Давайце спачатку сканцэнтруем увагу на Законе «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Апошнім часам нямала выказваецца заўваг у яго адрас не толькі з боку журналістаў. На вашу думку, якія ў закона галоўныя недахопы, ці плануеце вы яго нейкім чынам удасканальваць, каб ён адпавядаў патрабаванням часу?**

— Мы яшчэ не прыступалі ў падкамісіі да разгляду гэтага закона, работа пакуль ідзе над праектам бюджэту на бягучы год і ў кантэксце гэтага — над пытаннямі, што вызначаюць месца СМІ ў бюджэце. Але можна сказаць, што галоўны недахоп названага заканадаўчага акта, які быў і ў законе былога Савецкага Саюза, што выкарыстоўваўся для стварэння нашага, заключаецца ў тым, што пад увагу ўзята адна канкрэтная галіна — друк. Але так немагчыма вырашыць усе праблемы. Я быў і застаюся прыхільнікам іншай канцэпцыі: стварэння закона аб свабодзе інфармацыі. Гэта пазбавіла б недасканаласцей, калі дзеянне аднаго закона перакрываецца другім. Але наўрад ці зараз падобную ідэю можна рэалізаваць, таму трэба будзе працаваць на аснове таго, што ўжо ёсць. Асноўныя недахопы сённяшняга закона, акрамя тэхнічных, наступныя. Па-першае, няма канкрэтнага механізма недапушчэння манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, аб чым я ўжо казаў. Па-другое, недакладна акрэслены адносіны паміж заснавальнікамі, выдаўцамі і рэдакцыямі СМІ. Па-трэцяе, праз закон не праходзіць галоўная думка: журналіст — гэта той чалавек, які забяспечвае права ўсіх грамадзян на атрыманне аб'ектыўнай, дакладнай і поўнай інфармацыі. Менавіта па гэтай прычыне зараз існуюць супярэчнасці, якія часам ствараюць вялікія цяжкасці для работы вашых калег.

**— На адной з першых прэс-канферэнцый фракцыі камуністаў Васіль Новікаў адзначыў, што трэба зрабіць больш жорсткім механізм адказнасці журналістаў. З гэтай нагоды я хацеў спытаць: вам не здаецца, што сёння, наадварот, трэба ствараць механізм абароны журналістаў ад вялікіх аматараў судзіцца, якія часам вельмі хваравіта ўспрымаюць крытыку ў свой адрас?**

— Так, сёння шмат прыкладаў, калі ў судовых працэсах удзельнічаюць сродкі масавай інфармацыі з нагоды таго, што яны надрукавалі пра нейкага чалавека тое, што яму не спадабалася. Але гэтыя адносіны рэгулююцца не законам аб друку, а ў першую чаргу сёмым артыкулам Грамадзянскага кодэкса. Абарона годнасці дазваляе рабіць даволі разнастайныя трактоўкі, вось таму сёмы артыкул, можа, і трэба будзе ўдакладняць. Але не трэба забывацца і на судовую практыку. Ёсць шмат прыкладаў, калі чалавек не мог выйграць справу ў судзе, а пасля, калі заняў нейкую дзяржаўную пасаду, то атрымліваў перамогу. І наадварот, калі чалавек быў на высокай пасадзе, то яго «гонар» суд абараняў, калі ж ён стаў простым смяротным, то такога не адбывалася. Таму справа тут яшчэ і ў аб'ектыўнасці і незалежнасці суда. Дарэчы, я не думаю, што трэба рабіць так, каб журналіст быў абаронены ў любых абставінах. Не будзем забываць, што і журналісты бываюць несумленныя. Таму механізм адказнасці павінен быць абавязкова.

**— Такім чынам, мусіць, вы паспрабуеце ініцыіраваць і папраўкі ў Грамадзянскі кодэкс?**

— Гэтую з'яву трэба вывучаць. Я ў нейкім сэнсе кансерватар, і лічу, што калі штосьці перарабіць, то неабавязкова гэта будзе лепш. Калі ж узнікне неабходнасць, то будзем вырашаць. Дарэчы, мы гатовы вітаць любыя прапановы з боку і журналістаў, і грамадзян у сувязі са становішчам СМІ.

**— А што сабой уяўляюць законапраекты аб другім тэлеканале, аб тэлебачанні і радыёвяшчанні?**

— Першы вельмі кароткі і ўтрымлівае сістэму фінансавання, тэхнічнага забеспячэння, вызначае кола заснавальнікаў новага тэлеканала, размова вакол якога ідзе ўжо даўно. Гэты законапраект сам па сабе мала што дае, паколькі ўсё астатняе рэгулюецца іншым законам. А вось другі — якраз вельмі змястоўны дакумент, таму калі нават пераказваць яго, то спатрэбіцца надта шмат часу. Адным словам, калі Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» пераважна рэгулюе сферу друкаваных СМІ, то гэты законапраект закліканы зрабіць тое ж у сферы электронных сродкаў масавай інфармацыі Беларусі.

**— Дарэчы, да мяне дайшлі чуткі, што вам ужо перададзены праект функцыянавання другога тэлеканала...**

— Не. Мы толькі абмяркоўвалі гэтую праблему з рознымі журналістамі, у тым ліку і тэлевізіёншчыкамі. А перадалі праекты, якія датычацца асвятлення работы Вярхоўнага Савета.

**— Ведаю, што і гэтая праблема з'яўляецца вельмі гарачай і на яе існуе некалькі пунктаў погляду.**

— Я наогул заўсёды асцярожна стаўлюся да таго, каб нейкім чынам паўздзейнічаць на СМІ, бо такія дзеянні заўсёды абмяжоўваюць іх свабоду. Іншая справа, што сёння беларускае тэлебачанне з'яўляецца манапольным. У нас ёсць розныя думкі адносна гэтага, над пытаннем працуюць дзве камісіі: рэдакцыйная, створаная пад кіраўніцтвам Леаніда Юнчыка для таго, каб арганізаваць асвятленне працы Вярхоўнага Савета, і наша падкамісія. Пакуль што адзінай канцэпцыі няма. А вось тое, што ёсць дамоўленасць са старшынёй Белтэлерадыёкампаніі Рыгорам Кісялём адносна перадачы «Парламенцкая гадзіна», у якой будзе асвятляцца работа парламента за тыдзень, я магу пацвердзіць. Мы дамовіліся, што кожны распрацуе канцэпцыю такой праграмы. Праўда, мы зрабілі гэта, а вось з боку тэлерадыёкампаніі пакуль нічога не чуваць. Мяркую, такая праграма будзе карысная, паколькі сёння людзі атрымліваюць вельмі мала інфармацыі пра дзейнасць парламента.

**— Дарэчы, вы сказалі, што зараз працуеце над праектам бюджэту. Можна пацікавіцца, якое прадугледжана фінансаванне дзяржаўных сродкаў інфармацыі?**

— На гэтыя мэты выдзелена 716 млрд. рублёў на 1996 год. Гэта дзесьці крышку больш за 0,1 працэнта ад сумы ўсіх расходаў.

**— Калі прымаўся Закон аб друку, у папярэднім парламенце разгарэліся спрэчкі адносна таго, ці павінны органы ўлады выступаць заснавальнікамі газет, часопісаў і іншых сродкаў інфармацыі. Напрыклад, прапаноўвалася даць ім права выдаваць толькі інфармацыйныя бюлетэні. Да якой думкі вы схіляецеся?**

— Я мяркую, што калі газета з'яўляецца чыім-небудзь органам, то яна аддаляецца ад чытача. Бо ў першую чаргу яна павінна кіравацца інтарэсамі свайго чытача. Таму лічу, што непатрэбна органам дзяржаўнай улады выступаць заснавальнікамі газет. І без гэтага заўсёды будуць існаваць СМІ, якія будуць адлюстроўваць розныя пункты гледжання: і блізкія ўладным, і апазіцыйныя. Іншая справа, сёння склалася такая сітуацыя, што, напрыклад, Вярхоўны Савет не можа ў аднабаковым парадку адмовіцца ад сваіх газет, паколькі і Кабінет Міністраў, і Адміністрацыя Прэзідэнта захоўваюць свае. Таму калі і рабіць падобны крок, то толькі ў выглядзе нулявога варыянта. А да таго, калі гэта здарыцца, патрэбен час, каб і грамадства гэта ўспрыняло адэкватна, каб органы ўлады гэтага захацелі, каб і самі газеты былі падрыхтаваны.

**— І апошняе пытанне. Што трэба зрабіць, каб нашы газеты не друкаваліся за мяжой?**

— Трэба прыцягнуць да адказнасці тых людзей, якія выдавалі распараджэнні аб гэтым. Але яны не надта смелыя людзі, бо пісьмовых указанняў няма, што ўскладняе пошукі вінаватых. Таму адказнасць няхай нясуць непасрэдныя выканаўцы распараджэнняў, саўдзельнікі парушэння закона. Наогул, дзяржава не павінна так рабіць. Выходзіць, што ўлада баіцца пачуць пра сябе іншую думку, а значыць, яна слабая. Не было б такой сітуацыі, калі б не было ў Беларусі дзяржаўнай манаполіі на друк. І мы будзем працаваць над тым, каб скасаваць манаполію на сродкі масавай інфармацыі, на друк, на распаўсюджванне. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі фінансуюцца за кошт падаткаплацельшчыкаў, таму нашы грамадзяне маюць права атрымліваць «непрэфільтраваную», дакладную інфармацыю.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## *ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## Уладзімір БАШАРЫМАЎ:

# «ТРЭБА ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ЭФЕКТЫЎНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ БЮДЖЭТНЫХ СРОДКАЎ»

**Тое, што ў Вярхоўным Савеце няма зараз пленарных пасяджэнняў, стварае знешняе ўражанне бяздзейнасці парламента наогул. Аднак гэта зусім не так. Інфармацыя, якая штодзённа паступае ў парламенцкі прэс-цэнтр, сведчыць аб адваротным: практычна кожны дзень ва ўсіх пастаянных камісіях праходзяць пасяджэнні, ідзе карпатлівая работа над выпрацоўкай змяненняў і дапаўненняў у падатковае заканадаўства і ў праект дзяржаўнага бюджэту на бягучы год.**



Першапачаткова гэтыя заканадаўчыя акты праходзяць экспертызу ва ўсіх пятнаццаці камісіях, а потым вынікі абмеркавання паступаюць у «дыспетчарскі пункт» — камісію па бюджэту, падатках, банках і фінансах.

Звязаўшыся з кіраўніком камісіі Уладзімірам Башарымавым па тэлефоне, я задаў яму некалькі пытанняў наконт сённяшняга стану спраў. Згодна з яго словамі, перш чым прыступіць да разгляду праекта бюджэту, Вярхоўнаму Савету неабходна будзе ўдасканаліць 12 заканадаўчых актаў, якія рэгулююць падатковую сферу нашай дзяржавы. Мяркуецца, што дзеля гэтага 7-8 лютага будуць арганізаваны пленарныя пасяджэнні.

Гэта вельмі аб'ёмная праца, таму ў планах камісіі прадугледжана на працягу 1996—1997 гадоў дадзеныя законы аб'яднаць у адзіны Падатковы кодэкс. А тым часам сёння ўсе дзеянні павінны быць скіраваны на тое, каб зменшыць падатковы прэс на айчынныя прадпрыемствы, не дазволіць ім канчаткова «легчы на лапаткі». Аднак гэтыя памкненні маюць і адваротны бок. Падаткі — гэта асноўная крыніца даходаў у дзяржаўны бюджэт, і іх змяншэнне выкліча адначасовае змяншэнне і без таго дэфіцытнай даходнай часткі бюджэту. «Я не прыхільнік таго, каб дзеля аднаразовай выгады вешаць на шыю нашых прадпрыемстваў камень, які канчаткова пацягне іх на дно», — сказаў У. Башарымаў.

У камісіі вялікія сумненні выклікаюць прапановы Кабінета Міністраў, згодна з якімі ў 1996 годзе чакаецца рост вытворчасці на ўзроўні мінулага года, а рост валавога ўнутранага прадукту ў прамысловасці прагназіруецца на 1 працэнт, а ў сельскай гаспадарцы — на 2. Дарэчы, гэтыя сумненні парламент прадэманстраваў яшчэ падчас выступлення на сесіі Вярхоўнага Савета віцэ-прэм'ера Сяргея Лінга. Камісія не бачыць падстаў для росту, а папрасіўшы тлумачэнняў ва ўрадзе, па словах сп. Башарымава, іх не атрымала. Кіраўнік камісіі лічыць, што пры размеркаванні расходнай часткі бюджэту ў першую чаргу трэба звярнуць увагу на фінансаванне тых галін народнай гаспадаркі, якія ў гэтым маюць найбольшую патрэбу. Адначасова трэба павысіць эфектыўнасць выкарыстання сродкаў. У якасці прыкладу ён прывёў забеспячэнне ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. «Грошы, якія дзяржава выплачвае грамадзянам, што жывуць у забруджанай зоне, з-за сваёй мізэрнасці не могуць нейкім чынам паўплываць на фінансавае становішча гэтых грамадзян, — кажа Уладзімір Сямёнавіч. — Але гэтыя мізэрныя сумы ў агульнадзяржаўным маштабе выліваюцца ў мільярды рублёў. Мяркую, куды больш эфектыўна было б не распыляць іх, а сканцэнтраваць і накіраваць на будаўніцтва якой-небудзь бальніцы ці газаправода ў забруджаныя раёны. Выгада пацярпеўшым грамадзянам ад гэтага будзе куды большая». Такім чынам, яшчэ адзін крытэрый, з якога камісія зыходзіць пры разглядзе праекта бюджэту, — забеспячэнне эфектыўнасці выкарыстання сродкаў.

На маё пытанне адносна прапаноў, якія паступаюць з боку пастаянных камісій, мой суразмоўца адзначыў, што пакуль можна адчуць імкненне камісій лабіраваць мэты і праекты, якія яны непасрэдна курыруюць. Таму ў гэтым выпадку трэба мяняць тактыку і размяркоўваць сродкі зыходзячы з агульнадзяржаўных інтарэсаў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## Васіль КАПІТАН:

# «ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА ПРАКУРАТУРЫ — ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ВЯРШЭНСТВА ЗАКОНА»

**Вельмі жорсткую ацэнку работы органаў пракуратуры даў выконваючы абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Васіль Капітан у сваім дакладзе на пасяджэнні калегіі, прысвечаным вынікам 1995 года.**

У мінулым годзе ў рэспубліцы было зарэгістравана каля 132 тысяч злачынстваў, з якіх засталіся нераскрытымі 49 тысяч. Прырост цяжкіх злачынстваў, у параўнанні з 1994 годам, склаў 42 працэнты... Гэтыя лічбы, падкрэсліў дакладчык, сведчаць аб слабай рабоце праваахоўных органаў, і ў першую чаргу міліцыі. Далей ён адзначыў, што нягледзячы на значнае павелічэнне асабовага саставу органаў унутраных спраў, патрабаванні Закона аб міліцыі і іншых нарматыўных актаў па прадухіленню, раскрыццю і расследаванню злачынстваў выконваюцца нездавальняюча.

Паводле слоў Васіля Капітана, «асаблівую трывогу выклікаюць выпадкі абыякавасці работнікаў міліцыі, якая мяжуе часам са злачыннай халатнасцю». У якасці прыкладу ён прывёў факт, калі віцебскія міліцыянеры не зрабілі ніякіх захадаў у адносінах да грамадзяніна Паўлава, які здзекаваўся са сваёй маці і ў выніку забіў яе з асаблівай жорсткасцю. Такіх прыкладаў, лічыць В. Капітан, нямала. Вялікая колькасць заяў грамадзян аб абразах, збіванні не правяраецца. Нядзіўна, што пацярпеўшыя, не спадзеючыся на дапамогу міліцыі, нярэдка вяршаць самасуд. Пры патуранні пракурораў да крымінальнай адказнасці па прычыне бытавых злачынстваў прыцягнуты толькі 140 жыхароў рэспублікі, у той час як злачынствы супраць асобы на бытавой глебе склалі амаль 70 працэнтаў ад колькасці ўсіх зарэгістраваных. Далей Васіль Капітан гаварыў аб росце правапарушэнняў сярод моладзі — навучэнцаў і студэнтаў. У гэтым асяроддзі ўчынена больш за 10 тысяч злачынстваў. Па каэфіцыенту злачыннасці на 10 тысяч непаўналетніх Беларусь займае другое месца сярод краін СНД пасля Расіі. Дзейнасць многіх інспекцый па справах непаўналетніх гранічна фармальная і аднастайная, прафілактычная работа з падлеткамі запушчана. У той жа час дзе-ніdзе робяцца спробы ліквідаваць камісіі па справах непаўналетніх пад маркай адсутнасці сродкаў на іх утрыманне. А між тым, заўважыў В. Капітан, гэта адзіны орган па каардынацыі прафілактычнай работы, і пракуроры павінны заняць прынцыповую пазіцыю.

Васіль Капітан падкрэсліў, што галоўная задача пракуратуры, усіх праваахоўных органаў — забяспечыць вяршэнства закона, абараніць гарантаваныя Канстытуцыяй правы грамадзян і інтарэсы дзяржавы. Між тым, у шматлікіх скаргах грамадзяне выказваюць абурэнне не столькі няўменнем міліцыі раскрываць злачынствы, колькі нежаданнем гэта рабіць. Ёсць нямала прыкладаў, калі пацярпеўшыя ўказвалі на канкрэтных асоб, якія ўчынілі злачынствы, але нават гэта не падахвочвала да актыўных дзеянняў ні міліцыю, ні пракурораў. Больш таго, па прычыне наўмысных забойстваў не ствараліся следча-аператыўныя групы, у выніку чаго не раскрыты 153 такія злачынствы.

У заключэнне Васіль Капітан прапанаваў наладзіць больш цесны кантакт органаў пракуратуры са сродкамі масавай інфармацыі з тым, каб інфармаваць грамадскасць аб рабоце пракуратуры і разам наводзіць парадак ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ, БЕЛТА.**

# ЧЫГУНКУ ПАРАЗІЛА МЕДНАЯ ЛІХАМАНКА

**Паводле звестак упраўлення ўнутраных спраў на транспарце, рост крадзяжоў на Беларускай чынунцы ў 1995 годзе, у параўнанні з мінулым перыядам, адбыўся ў асноўным за кошт павелічэння колькасці крадзяжоў каляровых металаў (на 23,4 працэнта).**

Як паведаміў начальнік УУС на транспарце палкоўнік міліцыі Юрый Радзюкевіч, каляровымі металамі злачынцы пачалі цікавіцца яшчэ ў 1994 годзе. Але размах гэтай дзейнасці ў першай палове 1995 года прымусіў работнікаў транспартнай міліцыі закасаць рукавы.

Толькі за мінулы год на чыгунцы было выразана 348 медных дросельных перамычак, украдзена 26 кіламетраў сілавога кабелю і 64 км правадоў ліній сувязі. Прапалі або былі прыведзены ў непрыгоднасць 250 рэле і прылбораў, 260 акумулятараў, 22 тыс. квадратных кіламетраў вагоннага шкла. Усяго за мінулы перыяд страты ад крадзяжоў і псавання склалі 1 млрд. 200 тыс. рублёў. У сувязі з узнікшай абстаноўкай усе прыгарадныя паязды сталіцы былі ўзмоцнены радавым і сяржанцкім саставам унутраных войскаў рэспублікі. З іх дапамогай супрацоўнікі міліцыі выявілі больш за сто злачынстваў і затрымалі 4 тысячы правапарушальнікаў. У выніку аператыўнай работы было ўстаноўлена, што гэты від злачынстваў учыняецца самімі чыгуначнікамі або непаўналетнімі.

Згодна з ацэнкамі на 1995 год, на тэрыторыі рэспублікі ў сферы транспарту зарэгістраваны па ўсіх лініях службаў 3284 злачынствы, што на 20 працэнтаў больш, чым у 1994 годзе. Павялічылася на 30 працэнтаў колькасць цяжкіх злачынстваў і склала 750 выпадкаў.

І толькі дзякуючы настойлівай працы «старых» кадравых работнікаў выкрывальнасць злачынстваў павялічылася на 5 працэнтаў і склала 80 працэнтаў.

Аднак, на думку начальніка службы крымінальнай міліцыі В. Пуліновіча, злачынствы становяцца ўсё больш арганізаванымі і агрэсіўнымі. Таму аб спакойным жыцці міліцыі марыць не прыходзіцца.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ПРАГРАМА РАЗВІЦЦЯ ГАНДЛЮ

**Узняць гандаль Беларусі на еўрапейскі ўзровень -- такая мэта праекта праграмы развіцця галіны на бліжэйшыя пяць гадоў.**

Дакументам прадугледжаны актыўнае прыцягненне замежных і айчынных інвестыцый, змена формаў уласнасці і стварэнне канкурэнцыі на падобнай аснове. Гэтыя і іншыя праблемы будуць разгледжаны на пасяджэнні калегіі Мінгандлю, якое пройдзе ў Віцебску 6-7 лютага.

Дарэчы, месца сустрэчы кіраўнікоў органаў кіравання гандлю выбрана не выпадкова. Нягледзячы на цяжкія ўмовы эканамічнага крызісу, тут паспяхова дзейнічае шэраг прадпрыемстваў як рознічнага, так і аптовага гандлю, арганізацый грамадскага харчавання розных формаў уласнасці. Гэта «Гандлёвы дом Марко» і магазін «Меркурый», прыватны рэстаран «Эрыдан» і аптовая база «Гасгандаль».

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

# ЖОНКІ КАСМАНАЎТАЎ АДДАЛІ ПЕРАВАГУ ГОМЕЛЬСКІМ УБОРАМ

**Усякае новае нярэдка з'яўляецца забытым старым. Аб гэтым успомнілі ў Гомельскай вытворча-гандлёвай фірме «8 Сакавіка» і, як і ў мінулыя гады, адправіліся з таварамі на расійскі рынак.**

Фірменныя магазіны гамяльчан з'явіліся ў Белгарадзе і Варонежскай вобласці. А нядаўна фасон і якасць беларускіх трыкатажных вырабаў дастойна вытрымалі суровы экзамен у пакупніц Зорнага гарадка, якія разбіраюцца ў модзе. Цяпер тут рыхтуецца да адкрыцця новы магазін гамяльчан.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

# КАЛІ МЫТНЯ НЕ СПІЦЬ

**Больш як 120 млрд. рублёў і звыш 11 млн. долараў ЗША пералічыла ў мінулым годзе ў рэспубліканскі бюджэт Гомельская мытня.**

Выяўлена 19 фактаў кантрабанды, па якіх узбуджаны крымінальныя справы, расследавана каля 2,5 тыс. адміністрацыйных мытных парушэнняў. Гэтыя лічбы былі прыведзены на нядаўнім расшыраным пасяджэнні савета кіраўнікоў Гомельскай мытні.

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

*ЭХ, ЛЮДЗІ, ЛЮДЗІ!..*

# ДРАПЕЖНІЦТВА, або Што шукаюць «чорныя следапыты»

«ПРАДАЮЦЦА ОРДЭНЫ, МЕДАЛІ, за якімі гонар, сумленне і наша салдацкая кроў. Чаму ж вы, людзі, драпежнымі сталі, што гатовы за маркі, долары і «зайчыкі» залажыць славу сваіх бацькоў — абаронцаў Айчыны?» — Седзячы на шпітальным ложку, з болем і абурэннем гаварыў мне былы франтавік, які зведаў ленінградскую блакаду, прайшоў некалькі франтоў і праліў столькі крыві, якая нават не паддаецца ніякаму вымярэнню. А тыя раны, што ў кожнага інваліда вайны, кажучы словамі песні, «ад адбою да пад'ёму і ад пад'ёму да адбою не даюць спакою».

Усё гэта балюча прыгадваецца, калі чытаеш у нашай мясцовай газеце ананімныя аб'явы: «Куплю ордэны і медалі...» А пасля аб'яў па дамах і кватэрах у горадзе і раёне пайшлі не чырвоныя, а чорныя следапыты-зладзеі. Яны самі рабавалі і наводзілі такіх жа. А потым нясуць і вязуць ордэны на рынкі Варшавы, Берліна, Хельсінкі, Рыгі, Мурманска, Адэсы і іншых гарадоў розных краін, дзе выгадна прапануюць іх калекцыянерам усяго свету.

Такіх абуральных выпадкаў адбылося і адбываецца нямала і ў нашым горадзе. У нашай ветэранскай арганізацыі са слязьмі на вачах жанчына расказвала: ледзь паспела пахаваць свайго бацьку-ветэрана, як знік ордэн Леніна, якім ён быў узнагароджаны. У горадзе добра ведалі і глыбока паважалі лектара-міжнародніка, выкладчыка палітэхнікума І. Мальцава. Смерць абарвала яго жыццё. Жонка і дзеці не знялі яшчэ жалобы, як зладзеі ўзламалі дзверы ў кватэры і вынеслі касцюм з узнагародамі. Завіталі яны і да мяне, прасілі дапамагчы падрыхтавацца да Дня Перамогі. Гэта былі выхаванцы СШ № 1, адзін (зараз ужо судзімы) Міхаіл Казакевіч, другі — нейкі Дудко. Толькі прадставіліся яны вучнямі 9В класа СШ №8. На судзе я спытаў Казакевіча: «Хто і дзе навёў іх на кватэру?» І аказалася, мой адрас ён раздабыў на чыгуначным вузле.

У музеі баявой славы землякоў Маркаўскай школы ў металічнай скрыні, пад замком, захоўваліся баявыя ўзнагароды мясцовых ветэранаў. Але «чорныя следапыты» пранiклі ў яго, вынеслі скрыню, хаця ў школе быў вартаўнік, разламалі яе і выкралі ўсе ордэны і медалі абаронцаў Айчыны.

У міліцэйскай хроніцы можна часам прачытаць пра крадзеж ордэнаў і медалёў, але ні разу не было аб'явы, што міліцыя ці пракуратура шукаюць іх новых уладальнікаў. Міма праваахоўных органаў прайшоў і такі прыкры факт, пра які мне з болем у сэрцы расказаў былы партызан і салдат з вёскі Пранчэйкава Хоўхлашскага сельсавета А. Баброўіч. У 1942 годзе ён уступіў у партызанскую брыгаду імя Чкалава, якая фарміравалася ў яго роднай і суседняй вёсках. З Чырвонай Арміяй ён сустрэўся ў Белавежскай пушчы, адразу ж уступіў там у дзеючую армію, прымаў удзел у штурме Кёнігсберга і Берліна, быў двойчы цяжка паранены. Амаль два гады хірургі даставалі металічныя асколкі і асколкі яго раздробленых касцей. І зараз чалавек часта адчувае той боль, у дадатак жа ўсё больш слепне. Аднойчы перад святам Перамогі ён вырашыў патрымаць у руках і паглядзець свае баявыя ўзнагароды: ордэны Айчыннай вайны І ступені, Чырвонай Зоркі, медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі» і інш. Але кардонны карабок, дзе яны знаходзіліся, аказаўся пустым. Дарагія яму ўзнагароды нібы ператварыліся ў паветра.

Больш за 30 гадоў я цесна звязаны з ветэранскай работай і ні разу не чуў, каб хто выказваў жаданне прадаць ці аддаць свае баявыя ўзнагароды. Праўда, у 1965 годзе я дамовіўся з героем трох войнаў, поўным Георгіеўскім кавалерам, палачанінам Сільвановічам, што ўсе свае знакі доблесці — сярэбраны медаль «За мужнасць», два сярэбраныя і два залатыя Георгіеўскія крыжы, ордэн Чырвонай Зоркі, — ён бясплатна перадасць на вечнае захоўванне ў Мінскі абласны краязнаўчы музей. Гэты бясцэнны дар прыняў і адпаведным чынам аформіў дырэктар музея Генадзь Каханоўскі. На жаль, у 1969 годзе Лукаш Антонавіч памёр. Яго пахавалі з усімі воінскімі ўшанаваннямі, а я потым на працягу 26 гадоў не ведаў ні дня спакою, пакуль не дабіўся ўзвядзення на магіле героя помніка, вартага яго подзвігаў. І толькі калі 23 лютага мінулага года, у Дзень абаронцаў Айчыны, помнік быў адкрыты, сэрца маё супакоілася. Хоць мне не ўдалося бачыць і чуць салют на магіле знакамітага сына Айчыны, я рады за тое, што мне ўдалося зрабіць, мае намаганні марна не прапалі.

Горка, што працягваюць прападаць узнагароды жывых і мёртвых ветэранаў, у тым ліку і медалёў удзельнікаў вайны 1939 года, якія ўручаюцца польскім урадам ад імя прэзідэнта. Адзін з такіх ветэранаў расказаў: калі ён выявіў прапажу і «прыціснуў» свайго ўнука, той адказаў: «За такія медалі добра даюць».

Так дзейнічаюць драпежнікі, людзі без сораму — маральныя калекі, забяспечваючы ўсіх калекцыянераў свету не толькі каштоўным металам, але і нашымі дарагімі святынямі. Гэта трывожны сігнал і для праваахоўных органаў, і для сродкаў масавай інфармацыі, якія з'яўляюцца выхавальнікамі людзей, і для кожнага з нас. Такое драпежніцтва можна спыніць толькі намаганнямі ўсіх.

**В. ЛЯШКОВІЧ,**
**ветэран і інвалід**
**Вялікай Айчыннай вайны.**

*г. Маладзечна.*

*АДГУКНІЦЕСЯ!*

# «ШУКАЮ ЧАЛАВЕКА!» — ШУКАЮ ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

**НАДРУКУЙЦЕ, калі ласка, гэты ліст. Ён сапраўды напісаны зубамі, а па маёй просьбе яго перапісалі і даслалі вам. Спадзяюся, можа знойдуцца людзі, якія хоць чым-небудзь змогуць мне дапамагчы.**

Адзін мудрэц Старажытнай Грэцыі хадзіў днём з ліхтаром, а здзіўленым сустрэчным адказваў: «Шукаю чалавека!» Я таксама шукаю чалавека. Справа, аднак, ускладняецца тым, што я з'яўляюся інвалідам першай групы, не магу скрануцца з месца, нават лыжку данесці да рота, а не тое што хадзіць з ліхтаром. Радкі гэтыя я пішу, трымаючы ручку ў зубах, і калі іх надрукуюць, то гэта і будуць мае пошукі чалавека, а значыць, нават і ў маім жыцці запаліцца маленькі агеньчык надзеі.

Многае можна перанесці і вытрываць, калі маеш разуменне і спагаду самых блізкіх да цябе людзей. Але вельмі балюча, калі яны, менавіта яны, папракаюць цябе... нават не кавалкам хлеба ці лапікам тканіны — а тваёй нерухомасцю! І гэта пры тым, што і па самай інтымнай патрэбе мусіш клікаць іх на дапамогу... Вось такое перанесці ўжо амаль немагчыма. Але і гэта яшчэ не ўсё. Мае родныя не далі мне сысціся з чалавекам, з якім я магла б звязаць свой лёс. Яны перакананы, што я нікому не патрэбна, што мае мары аб сям'і — толькі глупства, якое з цягам часу пройдзе. Помніце ў Цютчава: «і гэта перажыць, і сэрца на шматкі не разарвалася!» Але я перажыла, перажываю, жыву. І гэта таму і толькі таму, што я маю веру ў Бога. Вера — паветра, якім дыхае мая душа. Яшчэ ў дзяцінстве Гасподзь, з'явіўшыся мне ў сне, абяцаў, што я буду здаровай, але толькі тады, калі выйду замуж. І вось, здавалася б, вызваленне маё было ўжо так блізка, але...

Нехта падумае: а што ж не дапамог табе Бог, у якога ты так верыш? Я ўжо казала, што без Бога жыццё маё было б увогуле немагчымым. Але ён не можа ўсё рабіць за нас. Навошта нас так многа на гэтай зямлі? Усякіх — багатых, жабракоў, здаровых, калек? Для таго, каб адным было каму дапамагчы, а другія каб маглі прыняць гэтую дапамогу і гэткім чынам адбывалася б і яднанне, і ўзаемнае выратаванне. Гэта не мая асабістая «дамарослая» філасофія, гэта філасофія Евангелія і айцоў царквы.

Што азначае выраз «шукаю чалавека»? Па-мойму, ён азначае — шукаю чалавечнасць. Адгукніцеся, людзі! Можа, нехта проста напіша мне і падтрымае добрым словам, можа нехта мае магчымасць нечым дапамагчы іншым — буду ўдзячная вам за ўсё. Часта ў мяне няма нават канверта ці стрыжня.

Але самае жахлівае ў тым, што ў гэткіх умовах душа мая пачынае паступова чарсцвець. Маё гора робіць мяне ўсё больш і больш халоднай... І помніце, калі ласка, словы Госпада пра тое, што той, хто ўсяго толькі падасць хвораму напіцца, «ужо не згубіць узнагароды сваёй».

**Таццяна БАБРЫЦКАЯ.**

*в. Бобра, Шчучынскі раён.*

*СКАНДАЛ*

# У ЗАЛЕ СУДА — перакладчык з беларускай мовы на рускую

Адразу зазначым, што гэты чалавек не меў ніякага дачынення да канфлікту, які 1 і 2 лютага разглядаўся судом Ленінскага раёна г. Гродна. Яго ўдзел у працэсе быў выкліканы іншай прычынай: прадстаўнік аднаго з адказчыкаў па іску гаварыў па-беларуску, а мовай пасяджэння большасцю была, як звычайна, выбрана руская. Таму паслугі перакладчыка з адной дзяржаўнай мовы на другую пару разоў спатрэбіліся ў дзяржаўнай установе, а канкрэтней, сакратару, якая вяла пратакол. Такія ўжо нашы рэаліі... Дарэчы, перакладчык быў папярэджаны суддзёй аб крымінальнай адказнасці за заведама няправільны пераклад.

Яшчэ адна пікантная дэталь гэтага працэсу ў тым, што iсцец і адзін з адказчыкаў па іску — гэта кіруючыя работнікі двух выканкомаў (праўда, цяпер ужо былыя). У лістападзе 1994 года, як сцвярджае iсцец, адказчык распаўсюдзіў аб ім па абласным тэлебачанні звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці і знеслаўляюць яго гонар і годнасць. Iсцец патрабуе прабачэнняў. Аднак адказчык заяўляе, што гаварыў праўду. Другі адказчык — абласное тэлерадыёаб'яднанне — лічыць, што не мае ніякіх адносінаў да іску, паколькі быў прамы эфір, і па закону журналіст не нясе адказнасці за тое, што гаварылася ўдзельнікамі перадачы без папярэдняга запісу.

Дарэчы, пасяджэнне суда пару разоў адкладвалася (аднойчы з-за адсутнасці перакладчыка) і вось нарэшце адбылося. Падрабязнасці мы паведамім пасля таго, як судовы вердыкт уступіць у законную сілу.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*ДОБРАЯ ВЕСТКА*

# ДЛЯ ВАС, ЧАРНОБЫЛЬЦЫ!

Да санаторыя — рукой падаць! Так, цяпер нарэшце не толькі для клімаўчан, але і жыхароў суседніх раёнаў, якія жывуць у зоне радыеактыўнага забруджвання, адпадзе праблема паездкі на аздараўленне ў далёкія санаторыі і дамы адпачынку як рэспублікі, так і краін СНД.

Як паведаміў старшыня абкома прафсаюза работнікаў АПК С. Крутаўцоў, дарэчы, зараз ужо і дэпутат Магілёўскага абласнога Савета, у Крычаве толькі што ўзведзены дабротны санаторый.

Бабруйскія вытворцы мэблі абсталявалі яго сваёй адмысловай прадукцыяй. Так што ўжо наступным летам туды можна будзе адправіцца як вяскоўцам, так і гараджанам. І зручна, і танна, бо не трэба будзе ехаць за трыдзевяць зямель.

**Іван ЛАПО.**

*ПАДУМАЕМ РАЗАМ*

# НЕ, ГЭТА НЕ ДРОБЯЗІ!

Мы прывыклі вырашаць нейкія глабальныя, маштабныя задачы. У той жа час забываем аб так званых дробязях, з якіх якраз складаецца вялікае.

У апошні час чамусьці начыста забыты рацыяналізацыя, вынаходніцтва, эканомнае расходаванне сродкаў і матэрыялаў, другасная перапрацоўка сыравіны. У рэспубліцы няма жалезнай руды, а як мы адносімся да збору і захоўвання металалому? Не па-гаспадарску.

Палі не ўгнойваюцца з-за дарагоўлі ўгнаенняў, а цудоўнае і таннае ўгнаенне, якое маглі б здабываць самі калгасы — торф, — спальваем у печах у выглядзе торфабрыкету, на выраб якога выдаткоўваюцца велізарныя сродкі і мазут, які можна б было спальваць у кацельнях. Затое шмат дроў гніе ў лясах.

Можна часта бачыць, як на вуліцах гарадоў толькі што заасфальтаваную дарогу зноў капаюць-перакопваюць. Скажыце, хіба гэта правільна?

Ні адна галіна, якая магла б рэспубліцы даваць валюту, не развіваецца — я маю на ўвазе турызм, ільнаводства, лясную прамысловасць і інш.

Сельская гаспадарка — гэта не толькі хлеб і агародніна, гэта яшчэ і сыравіна для многіх прадпрыемстваў і галін, а ў нас і тут упадак, запушчанасць. І ўсё таму, што да гэтага часу нідзе няма сапраўднага гаспадара, а пакуль усё будзе наша, агульнае, толку і парадку чакаць доўга.

Дарэчы, многае можна рабіць на месцах, але ствараецца ўражанне, што ўсе чакаюць калі за іх усё зробіць, усё вырашыць Прэзідэнт.

**Іван СКАВАРОДКІН,**
**ветэран працы.**

*г. Рагачоў.*

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 5(24)




## Курсы абмену наяўных валют

**у камерцыйных банках на 5 лютага 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША Купля | Долар ЗША Продаж | Нямецкая марка Купля | Нямецкая марка Продаж | Расійскі рубель Купля | Расійскі рубель Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11700 | 12000 | 7850 | 8150 | 2.30 | 2.55 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11650 | 12000 | 7700 | 8150 | 2.30 | 2.55 | |
| Белзнешэканомбанк | 11500 | 12000 | 8050 | 8450 | 2.30 | 2.55 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11800 4760 | 11950 4870 | 7900 | 8100 | 2.43 | 2.55 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11600 | 11900 | 7700 | 8050 | 2.10 | 2.45 | 372-826 |
| Народны банк | 11700 | 12000 | 7850 | 8100 | 2.30 | 2.52 | 238-610 |
| «Алімп» | 11850 | 12300 | 7950 | 8200 | 2.45 | 2.57 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11850 | 12050 | 7800 | 8100 | 2.35 | 2.48 | 291-646, 067 |
| «ФФФ» | 11500 | 12100 | 7700 | 8200 | 2.30 | 2.58 | 621-601 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7711.91 | | 2.43 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4736 | | 3176.60 | | 100 бел.р. 41.60 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік
** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік
*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах

таварыства «Агропрамысловае аб'яднанне «Рассвет»

# ...ОДЗЕЙ ШЧАСЛІВЫМІ Ў ЛЮБЫЯ ЧАСЫ. ...ГЭТА ДОРАГА МНЕ НІ КАШТАВАЛА»

яна, на мой погляд, ужо сябе зжыла. Калгас — ґэта значыць, што «ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё». Пойдуць рабочыя сена стагаваць. Глядзяць, няма брыгадзіра — і садзяцца ў карты рэзацца, пакуль старшыня не пад'едзе ці дождж не пойдзе. Такая ж самая сітуацыя і на фермах, і ўсюды, куды ні глянь.

Якой жа тады неэканомнай была наша вытворчасць, нягледзячы на розныя дзяржаўныя пастановы і ўказы.

Я ўжо дваццаць дзявяты год працую ў «Рассвеце» і выдатна памятаю, наколькі бескарысную я вёў барацьбу за эканомію электраэнергіі, гаруча-змазачных матэрыялаў. І ўсё марна.

І толькі калі мы сталі акцыянерным таварыствам, што мела на ўвазе самастойнае фінансавае існаванне кожнага падраздзялення, — стаў парадак. Таму што на першы план выйшаў рубель і нідзе не стала месца разгільдзяйству і безгаспадарчасці. Не паверыце, але эканомія дасягнула рэкордных паказчыкаў. Расход газу, ГЗМ і электраэнергіі ў сярэднім зменшыўся ў тры разы.

**— Вы маглі б больш падрабязна ахарактарызаваць свой новы статус?**

— Калі ласка. Кожнае з падраздзяленняў нашай гаспадаркі было пакінута як бы на самавыжыванне. Напрыклад, паляводчай брыгадзе патрэбна машына, каб вывезці з поля буракі. Механізм здзелкі вельмі просты. Прадстаўнік паляводаў ідзе ў наш уласны банк «Рассвет», аплачвае аўтамабільнаму парку пэўную суму за карыстанне транспартам, і ўсё. Бяры машыну, едзь па тавар. У кожнага з самастойных суб'ектаў «Рассвета» існуе ўласны рахунак у банку, і праз яго праходзяць усе аперацыі, за якімі стаяць звычайныя рабочыя будні.

Прывяду яшчэ адзін прыклад эканамічнага выкарыстання тэхнікі. Раней у жніво ў мяне патрабавалі 20—30 машын, каб вывозіць збожжа за камбайнамі. Хоць я бачыў, што палова з іх доўга прастойвае на халастым хаду. А цяпер я ўпэўнены, што падобнае не паўторыцца, бо замест тых машын выкарыстоўваюцца некалькі трактароў з двума-трыма прычэпамі. Хоць я не супраць, каб і ўвесь машынна-трактарны парк выехаў на ўборку. Калі ласка, толькі купіце за свае грошы паліва. А каму ж хочацца грошы выкідваць на вецер?

**— Васіль Канстанцінавіч, як вы ўсё ж такі прыйшлі да новай формы ўласнасці— акцыяніравання?**

— Гэта, можна сказаць, непазбежны працэс, бо чалавецтва ў сваім развіцці ідзе толькі наперад. Ва ўсім цывілізаваным свеце сельская гаспадарка аддадзена ў прыватныя рукі. Вазьміце той жа Кітай. Там кожная сям'я атрымала ад дзяржавы пэўны зямельны надзел, які яна старанна апрацоўвае.

Хто б мог падумаць, што кітайцы пры такой колькасці насельніцтва будуць экспартаваць рыс і ў кожнага будзе свой мандарынавы сад?

Дарэчы, не буду сцвярджаць, што зараз усе сельскагаспадарчыя землі Еўропы ці Азіі прыватызаваны. У свеце зараз існуюць тры формы ўласнасці: дзяржаўная, кааператыўная і прыватная. Тая ж калектыўная ўласнасць таксама мае права на існаванне. Прыклад таму — карыстанне зямлёй на тэрыторыі былой ГДР, дзе пры калектыўнай форме карыстання зямлёй атрыманы выдатныя вынікі. Але прыватная больш за ўсё адпавядае чалавечай псіхалогіі.

Нават на Кубе пачынаюць будаваць рыначны сацыялізм, які, безумоўна, мае на ўвазе рыначныя адносіны. А без іх сёння нельга ўпісацца ў сусветную эканоміку, нельга быць канкурэнтаздольным і выпускаць патрэбны і танны тавар.

**— Вы маглі б паказаць схему, па якой праходзіла пераўтварэнне калгаса ў акцыянернае таварыства? Магчыма, яна будзе карыснай іншым кіраўнікам сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.**

— Мы акцыяніраваліся ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб акцыянерных таварыствах». Напярэдадні гэтага кроку мы сабралі ўсе пасляваенныя дакументы, якія датычыліся калгаса «Рассвет» і яго работнікаў. Адлік вёўся з самага пачатку існавання нашай гаспадаркі — 1944 года. Было вызначана, хто калі працаваў, колькі кожным зароблена працадзён, колькі атрымана грошай.

На падставе ўсіх выведзеных даных зрабілі прасцейшы арыфметычны ход: падзялілі атрыманую ўмоўную лічбу на 2250 работнікаў. Па грашах 1995 года было падзелена 40 мільярдаў рублёў. Гэта што датычылася зямлі і нерухомасці. А вось перапрацоўчыя аб'екты я прапанаваў не дзяліць, а выкупіць. Сума выкупу склала 30 мільярдаў рублёў. Уладальнікамі акцый стала каля 700 чалавек.

Працэс акцыяніравання праходзіў даволі спецыфічна. Быў наладжаны своеасаблівы рынак каштоўных папер. І той, хто хацеў купляць акцыі, і той, хто жадаў іх прадаць, пісалі заявы. Тады чалавек 80 адважыліся прадаць каштоўныя паперы: нехта купіў сабе тэлевізар, халадзільнік ці зрабіў прыбудовы да хат. Але ж аўтаматычна стаў проста наёмным рабочым, які не мог карыстацца тымі льготамі, якія мелі акцыянеры. Таму многія з іх вымушаны выкупіць паперы назад. Калі не памыляюся, больш за двесце чалавек перадалі сваю ўласнасць дзецям, унукам, якія спакойна атрымліваюць грашовыя дывідэнды разам з усімі рассветаўцамі.

Мы дапамаглі людзям стварыць тры віды ўласнасці. Першая — падзеленая, другая — выкупленая і трэцяя — банкаўская ўласнасць. У канцы 1994 года ў нашым унутраным банку сабралася каля 240 тысяч долараў дывідэндаў. З гэтай нагоды кожнаму без выключэння акцыянеру быў пакладзены на ўласны рахунак 1 мільён рублёў.

Акрамя зберажэнняў ва ўнутраным банку частка нашай уласнасці знаходзіцца ў руках «Пріорбанка» — каля мільярда рублёў. Раней мы былі яго філіялам.

**— Васіль Канстанцінавіч, у вашай велізарнай гаспадарцы ўсё адладжана, як у гадзінніку. Кожны чалавек на сваім месцы, усюды парадак. У вас ёсць нейкія сакрэты кіравання такой махінай?**

— Адкуль яны? Жыццёвы вопыт. Я ніколі не прытрымліваўся метаду бізуна і перніка. Калі ты доўга працуеш, не валаводзіш на рабоце, то, як гаворыцца, гонар і слава табе. Але ж калі я выяўлю, што ты гультай, то тады трымайся. Не дам спуску, і на маю паблажлівасць не разлічвай.

Раней у мяне было заведзена правіла: у 6.45 раніцы калгасны нарад, дзе павінны быць патрэбныя спецыялісты, а потым аб'езд па графіку фермаў, палёў. Калі ж на нейкім з аб'ектаў не акажацца без уважлівай прычыны, напрыклад, тэхніка, то яму тады жыццё малінай не пакажацца.

**— Вы не занадта строгі? Наогул, у вас ёсць рысы характару, якіх бы хацелася пазбавіцца?**

— Не ведаю, асаблівых хібаў у сваім характары не заўважаў. Здаецца, і караў, і хваліў толькі па справядлівасці. І калі б мне выпала шчасце яшчэ раз пражыць жыццё, то я яго пражыў бы гэтак жа, як і цяпер.

Хоць, не буду спрачацца, за 40 гадоў маёй працоўнай дзейнасці мае строгасць і справядлівасць цесна перапляліся. Я ні ў чым сябе не вінавачу, бо крэда майго жыцця — рабіць людзей шчаслівымі ў любы час. Як бы гэта дорага мне ні каштавала.

**— Вас ніколі лёс не караў за залішнюю самастойнасць, ініцыятыўнасць?**

— Не. Хіба што сам мог нарвацца на непрыемнасць, бо любіў паспрачацца нават з Машэравым.

**— Васіль Канстанцінавіч, ведаю, што, нягледзячы на грандыёзныя поспехі тых гаспадарак, якімі вы кіравалі і кіруеце, ваш працоўны шлях не быў услан ружамі. Вы ўдала абыходзілі ўсе няроўнасці на жыццёвым шляху. Магчыма, у вас быў настаўнік?**

— Шчыра прызнаюся, што даходзіў да ўсяго сам, таму што збоку нікога не было. Ні прататыпа кіраўніка-камуніста, ні родных у райкоме партыі ці гарвыканкоме.

Я проста сумленнай працай дабіўся поспехаў. Бачыў, што калі ты стараешся і хочаш зрабіць для людзей лепш, то цябе падтрымаюць ва ўсіх інстанцыях.

Хоць, прабачце, здараецца і наадварот.

**— Мяркую, што размова пойдзе пра піўзавод?**

— І пра цэх па перапрацоўцы бульбы. З ім праблем таксама многа. Без усялякіх на тое падстаў абласное ўпраўленне архітэктуры выставіла нам штрафныя санкцыі на 162 мільёны рублёў. Усё ж, мяркую, гэтае пытанне будзе знята з парадку дня, і ў бліжэйшы час мы атрымаем ліцэнзію на ўвод гэтага аб'екта. Ён яшчэ зусім малады, паколькі будаўніцтва яго завершана толькі ў мінулым годзе.

Гадавая магутнасць цэха — 10 тон бульбы. Плануецца выпускаць некалькі відаў прадукцыі: крухмал, сушаную бульбу, бульбянае пюрэ. Гатова да пуску і лінія па вытворчасці бульбяных чыпсаў і хрумсткай бульбы.

А вось з піўзаводам сітуацыя куды больш складаная.

У свой час, дзесьці 5 гадоў таму, мы вырашылі зрабіць добрую справу — пабудаваць уласны піўзавод. Залажылі фундамент, пачалі ўзводзіць сцены. Па першапачатковай задумцы пеністы напой будзе гатавацца па чэшскай тэхналогіі. На сёння нам засталося закупіць частку заходняга абсталявання і правесці аддзелачныя работы ўнутры.

Аднак раптам узнікае недарэчнасць. Чыноўнік з абласнога ўпраўлення архітэктуры спадар Бубноў накладвае вета на завяршэнне будоўлі. Маўляў, без яго ліцэнзіі мы наогул не маем права будаваць. І прыкрываецца ён нейкай інструкцыяй двухгадовай даўнасці.

Ужо не адна наша дэлегацыя абівала парогі ў Магілёве, увяла ў курс справы і губернатара Магілёўскай вобласці спадара Кулічкова, аднак адтуль ніякай рэакцыі.

Здаецца, і дурню зразумела, што калі мы пачалі будаўніцтва на тры гады раней, чым узнікла нейкае распараджэнне, якое забараняе на нашай зямлі, за нашы грошы і сіламі нашых работнікаў праводзіць будаўнічыя работы, то трэба справу давесці да канца. Я не ведаю, што там за папера, у якую ўважліва глядзяць айцы Магілёўскай вобласці і іх падначаленыя.

Да таго ж, зараз не 1917 год, калі па-бальшавіцку можна было падарваць любы непажаданы аб'ект. Магчыма, Бубноў і прапануе такі варыянт.

Аднак я такой несправядлівасці не пацярплю і звярнуся нават да Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, каб ён збіў гонар з бюракратаў і паставіў іх на месца.

**— Можна не сумнявацца, што вашым аўтарытэтам можна любую сцяну бюракратыі прабіць. Справа толькі ў часе.**

— Я ўсё ж думаю вырашыць гэта пытанне мірным шляхам і не даводзіць яго да канфлікту. Паколькі сам па сабе я чалавек хоць гарачы, але неканфліктны.

**— Вы забылі сказаць пра сціпласць. І вось чаму. У былым Савецкім Саюзе літаральна толькі некалькі чалавек мелі дзве зоркі Героя Сацыялістычнай Працы, якія яны атрымалі за заслугі ў сельскай гаспадарцы. І ўсім ім былі пастаўлены помнікі. Пры жыцці, вядома. Чамусьці ў «Рассвеце» бронзавага бюста Васіля Старавойтава нябачна.**

— І пакуль, думаю, не ўбачыце, хоць помнік для мяне ўжо даўно зроблены. Спачатку гіпсавы, а потым і бронзавы. І дзесьці ляжыць. Я не ведаю дзе.

Памятаю, мяне ўпрошвалі, каб я згадзіўся на гэты крок. І ў маю адсутнасць нават спрабавалі яго паставіць. Я сказаў тады сакратару райкома: не рабі гэтага. Ты мяне ведаеш. Падганю бульдозер і знясу бюст.

І, ведаеце, ён паслухаў мяне. Не хачу, каб сёння красаваўся тут мой помнік. Няма ў гэтым патрэбы. Галоўнае, на мой погляд, не ў тым, каб твае заслугі ўвекавечылі ў кавалку металу, а каб людзі помнілі і ведалі цябе проста як добрага і сумленнага чалавека.

**Матэрыялы рэкламна-інфармацыйнай старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## ...ЫЦЫ КОНЬ



...цыі і аўтаматызацыі ў «Рас...
...й. У параўнанні з тэхнікай у
..., праходнасць яго ў зімовы
...ашыны. А на ферме ці сві...

...00 галоў коней, якія адчува...
...й.
...віч працуе ў брыгадзе, дзе

... чым-небудзь смачненькім,

## ПІЎЗАВОД

Будаўніцтва піўзавода было задумана яшчэ пры Саюзе, і першы камень у яго фундамент быў закладзены ў 1990 годзе. Сёння гэтая унікальная пабудова знаходзіцца ў стадыі завяршэння. Засталося правесці аддзелачна-наладачныя работы і абсталяваць сучасным заходнім абсталяваннем. Акцыянернаму таварыству «Рассвет» па сілах зрабіць гэта ўжо ў бліжэйшы час. Аднак узніклі незапланаваныя перашкоды. У лёс піўзавода ўключыўся чыноўнік з абласнога ўпраўлення архітэктуры спадар Бубноў, які, кіруючыся нейкай інструкцыяй, забараняе паспяхова завяршыць будаўніцтва завода. Логіка абласнога чынушы надзвычай простая: у вас няма ліцэнзіі на будаўніцтва піўзавода. А выдаць яе магу толькі я. А магу і не выдаць. Старшыня савета АТ «Рассвет» Васіль Старавойтаў неаднаразова пасылаў і дэлегацыі і пісьмы ў адрас начальніка інспекцыі Дзяржбуднагляду Магілёўскай вобласці сп. А. П. Бубнову і старшыні Магілёўскага аблвыканкома сп. А. Н. Кулічкову з просьбай паглядзець па-чалавечы на будаўніцтва піўзавода і не рабіць з гэтага праблемы. Аднак бюракратычная сцяна застаецца пакуль непрабівальнай. Пакуль.



## КАЎБАСНЫ ЦЭХ



У каўбасным цэху АТ «Рассвет» заўсёды ёсць што паглядзець. Асартымент даволі шырокі: каўбасы варана-вэнджаныя, маскоўская, сервелат, сыравэнджаная паляндвіца, пастрама вэнджаная запечаная, кумпяк вэнджана-запечаны, грудзінка і карэйка сыравэнджаныя. Усяго тут вырабляецца каля 20 найменняў каўбас і каўбасных вырабаў.

Работнікі каўбаснага цэха (дзесяць чалавек) добра гатуюць і мясныя паўфабрыкаты: супавыя ялавічныя наборы, рагу свіное і многае іншае.

За суткі цэх здольны выпускаць да 1 тоны каўбасных вырабаў, смак якіх добра ведаюць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Паралельна з выпускам каўбасных вырабаў наладжана вэнджанне свежага карпа, пах і смак якога добра вядомы мясцовым аматарам піва.

У гаспадарцы ёсць сваё возера на 100 га, у якім штогод рыбалавецкая брыгада вылоўлівае да 180 тон рыбы. Прыкладна трэцяя частка яе вэндзіцца, а астатняя рэалізуецца жывой вагой. Геаграфія паставак фірменнай прадукцыі «Рассвета» таксама даволі шырокая.

**На здымку**: дырэктар каўбаснага цэха Васіль Трыбуш разам з выканаўчым дырэктарам АТ «Рассвет» Мікалаем Лянкевічам абмяркоўваюць надзённыя пытанні цэха.

МЕРКАВАННЕ ЭКСПЕРТА

# СТАН ГРАШОВА-КРЭДЫТНАЙ СФЕРЫ ВЫЗНАЧАЕЦЦА ЭКАНАМІЧНАЙ СІТУАЦЫЯЙ...

***Пра валютны калідор і яго магчымасці, надзейнасць банкаў, індэксацыю ўкладаў і іншыя фінансава-банкаўскія справы***

**Інтэрв'ю дырэктара акцыянернага таварыства «Белбізнесінвест», кандыдата эканамічных навук, грамадскага эксперта газеты А. ЛУЧАНКА**

**— АЛЯКСАНДР ІВАНАВІЧ, нядаўна з'явіўся Указ «Аб удасканаленні дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі». Як вы ацэньваеце сітуацыю ў гэтай сферы на сённяшні дзень?**

— Указ скіраваны на забеспячэнне эканамічнай стабільнасці, і з'яўленне яго правамернае, бо фінансы ўплываюць на эканоміку. Але будзем пры гэтым улічваць, што стан грашова-крэдытнай сферы вызначаецца найперш менавіта самой жа эканамічнай сітуацыяй на дадзены момант, а яна вядома якая. Карацей, гэты працэс узаемазвязаны. Увогуле, банкі, як асноўныя фінансавыя структуры, прама зацікаўлены ў развіцці вытворчасці. Вытворчыя структуры — адны з асноўных кліентаў. Калі ў іх справы ідуць нармальна — значыць, у іх ёсць грошы, значыць, і ўдзельнікі фінансавага рынку адчуваюць сябе больш упэўнена. І наадварот, крах прамысловасці негатыўным чынам адбіваецца на дзейнасці ў грашова-крэдытнай сферы.

**— Яшчэ раней вы падтрымлівалі ідэю ўвядзення валютнага калідора. Як вы ставіцеся да гэтай ідэі цяпер? Між іншым, у Расіі калідор, як быццам, дзейнічае...**

— Падтрымліваў, бо нешта трэба было рабіць. І ўжо лепей паўмеры, чым не рабіць нічога. Але пэўных ілюзій жывіць не трэба. У нас з Расіяй розныя сітуацыі. Мы не маем дастатковай колькасці прыродных выкапняў, якія можна прадаць за валюту, наша эканоміка знаходзіцца ў значна горшым стане, міжнародныя фінансавыя арганізацыі не лічаць магчымым з намі сур'ёзна працаваць, і ў нас практычна вычарпаліся валютныя запасы.

**— Але мы з пачатку мінулага года пастаянна чулі аб тым, што валютныя запасы краіны растуць, што ўрад вымушаны нават скупліваць долары для таго, каб курс долара не ўпаў...**

— У пачатку 1995 года чыстыя замежныя актывы ў СКВ складалі 1,1 млн. долараў, а валавыя золатавалютныя актывы — 175 млн. долараў. У выніку палітыкі Нацбанка, у першую чаргу за кошт павышэння стаўкі рэфінансавання, што стварыла эканамічныя ўмовы для падтрымання стабільнага курса беларускага рубля, у абарот удалося прыцягнуць не толькі і не столькі валюту насельніцтва і беларускіх прадпрыемстваў, колькі валюту з іншых рэспублік, якія пераводзілі яе (у тым ліку цвёрдую) у беларускія рублі і клалі іх тут на дэпазіт. У выніку да лета 1995 года чыстыя замежныя актывы ў СКВ дасягнулі амаль 197 млн. долараў, а валавыя золатавалютныя актывы — амаль 500 млн. долараў.

Натуральна, іх нельга было згубіць. Аднак, калі ў выніку аказанага на Нацыянальны банк ціску ён быў вымушаны панізіць стаўку рэфінансавання да велічыні 5,5 працэнта ў месяц, стала ясна, што валюту з рэспублікі замежныя інвестары пачнуць адклікаць. Для таго, каб не страціць валютныя запасы на інтэрвенцыі па падтрыманню стабільнага курса рубля, неабходна было правесці рэзкую дэвальвацыю беларускага рубля. Але гэтага не было зроблена. І валюта пачала знікаць з рэспублікі.

Такім чынам, калі б была своечасова праведзена дэвальвацыя беларускага рубля, то рэспубліка магла б «прыбраць да рук» значную частку валюты, укладзеную ў яе для валютных спекуляцый.

А цяпер сітуацыя такая, што замежныя структуры, зарабіўшы, павялічыўшы свае капіталы ў 2-2,5 раза за кошт высокіх дэпазітных ставак, пераводзяць іх назад у валюту, выцягваючы з рэспублікі не толькі свае сродкі, але і беларускую валюту.

**— На валютнай біржы ўведзены абмежаванні на набыццё валюты. Ці можа гэта спыніць яе вымыванне з рэспублікі?**

— Давайце гаварыць шчыра. Абмежаванні ў асноўным уведзены для беларускіх прадпрымальнікаў, якіх можна проста «прыдушыць». Але ці будуць нашы кіраўнікі пярэчыць структурам, звязаным з расійскім капіталам? У апошніх шмат рычагоў уздзеяння...

**— Ці магчыма пры адсутнасці дастатковых золатавалютных рэзерваў і існуючых праблемах у эканоміцы падтрыманне курса беларускага рубля ў рамках валютнага калідора?**

— Магчыма. Для гэтага неабходна ўзняць уліковую стаўку Нацбанка прыкладна да 15—18 працэнтаў у месяц. Гэта зноў зробіць выгаднымі ўкладанні ў беларускіх рублях, прыцягне валюту з-за мяжы і на нейкі час дапаможа падтрымаць курс беларускага рубля. Але з другога боку гэта выкліча павышэнне ставак за крэдыт, што паўплывае на рост сабекошту прадукцыі і пагоршыць умовы для беларускіх экспарцёраў.

**— Як вы ставіцеся да ўвядзення абавязковага 100-працэнтнага продажу суб'ектамі гаспадарання заробленай валюты на біржы? Існуе меркаванне, што гэта падтрымае той жа курс.**

— Пэўны эфект гэта мера дасць, але не думаю, што яна з'яўляецца панацэяй. У экспарцёраў заўсёды ёсць варыянты...

**— Цяпер шмат гавораць аб эканамічнай злачыннасці ў банкаўскай сферы...**

— Як і ў любой іншай сферы гаспадарчай дзейнасці, час ад часу тут таксама з'яўляюцца махляры. Але нельга з-за некалькіх выпадкаў абвінавачваць усіх банкаўскіх работнікаў. У пераважнай большасці яны самі зацікаўлены працаваць абсалютна сумленна. Выпадкі крадзяжу, якія назіраліся ў нас у фінансавай сферы, перш за ўсё адбываліся за кошт метадаў, ужо апрабаваных у Расіі. Таму КДБ, МУС, банкам і іншым зацікаўленым структурам трэба ўстанавіць цесныя кантакты з расійскімі праваахоўнымі органамі для вывучэння дзейнасці расійскіх злачынных груповак і метадаў барацьбы з імі, а таксама супрацоўніцтва з «Інтэрполам».

Мэтазгодна ўзмацніць меры па процідзеянню карупцыі ў банкаўскай сферы, у тым ліку супраць подкупу радавых аперацыяністаў, якія ажыццяўляюць перавод канкрэтных грашовых сум. Пры гэтым трэба дзейнічаць не забаронамі, а шляхам прадастаўлення банкам магчымасці самастойна вызначаць узровень заработнай платы сваім работнікам.

Мэтазгодна таксама прадугледзець меры па судоваму праследаванню за наўмыснае невяртанне крэдытаў, за прыцягненне грошай насельніцтва і юрыдычных асоб з заведама махлярскімі намерамі і шэраг іншых мерапрыемстваў. Але ні ў якім разе барацьбу з эканамічнымі злачынствамі нельга ператвараць у барацьбу з усімі спецыялістамі фінансавага рынку.

І яшчэ, што ўжо датычыць не банкаў, а іншых удзельнікаў фінансавага рынку, якія нярэдка практыкуюць работу з наяўнымі грашыма, у тым ліку з доларамі: яны, вядома ж, сур'ёзна парушаюць нашы законы. Да таго ж, менавіта з тымі, хто працуе з наяўнымі, звычайна маюць справу крымінальныя элементы.

**— Як вы ставіцеся да магчымасці індэксацыі ўкладаў насельніцтва?**

— Застаецца толькі паспачуваць «Беларусбанку», ад якога гэта патрабуюць зрабіць. Бо зразумела, што рэальныя крыніцы для такой індэксацыі адсутнічаюць. І перавод у гэты банк рахункаў большасці дзяржаўных прадпрыемстваў і прадпрыемстваў паліўна-энергетычнага комплексу праблемы не вырашае — за прыцягнутыя ў іх грошы трэба плаціць. Я думаю, што за кошт бюджэтных грошай праблему і не будуць спрабаваць вырашыць — гэта вядзе да інфляцыі. Насельніцтва не паверыць і абяцанням індэксаваць уклады за кошт жыллёвага будаўніцтва — вельмі ўжо гэта нагадвае дзве казкі: як салдатварыў суп з сякеры і «Кожнай сям'і да 2000 года — асобную кватэру».

Рэальна я бачу адно выйсце: выкарыстоўваючы свае сувязі, «Беларусбанк» прабівае ў кіраўніцтва рэспублікі праграму шырокамаштабнай прыватызацыі ўласнасці, атрымлівае ў сваё распараджэнне частку дзяржаўнай уласнасці і размяркоўвае яе паміж укладчыкамі былога Ашчадбанка прапарцыянальна іх укладам.

**— Цяпер шмат гавораць аб банкаўскім крызісе, аб магчымым банкруцтве многіх банкаў. Можа, у мэтах надзейнасці варта несці свае грошы толькі ў «Беларусбанк»?**

— Вядома, на сённяшні дзень гэты банк здаецца надзейным, калі яго, паўтару, і сапраўды не прымусяць усур'ёз індэксаваць уклады насельніцтва. Але «Беларусбанк» ужо сёння мае грошай больш, чым можа граматна іх размясціць. У такой сітуацыі, нават калі дробныя ўкладчыкі (у тым ліку і прадпрыемствы) панясуць свае грошы ў «Беларусбанк», апошні будзе ў гэтым не вельмі зацікаўлены, паколькі ў яго хапае іншых, больш буйных кліентаў. З'явяцца вялікія магчымасці для дыктату ўмоў з боку «Беларусбанка». Напрыклад, стаўкі па дэпазітах могуць прапаноўвацца нізкія, тэрміны плацяжоў таксама могуць дыктавацца.

Я думаю, што захаваецца не менш як паўтара-два дзесяткі банкаў, якія выжывуць і будуць паспяхова развівацца. Уся праблема ў тым, як правільна вызначыць гэтыя банкі. Але, прынамсі, я цвёрда ўпэўнены ў надзейнасці і добрай будучыні свайго банка — АКБ «Белбізнесбанк». Увогуле, ёсць прыказка: «Пакуль тоўсты сохне — худы здохне». Я, напрыклад, вельмі паважаю маленькія банкі — у іх працуюць сумленныя і граматныя людзі, якія перажываюць за сваю справу, яны часта больш аператыўныя, ад інвестыцый у такія банкі можна атрымаць вялікі даход. Але бяда ў тым, што ў выпадку ўзнікнення крызіснай сітуацыі на грашовым рынку больш пакутуюць банкі менавіта з невялікімі статутнымі фондамі, якія працуюць у асноўным з прыцягнутымі рэсурсамі. Некалькі няўдачных аперацый збанкруцяць маленькі банк, у той час як для буйнога банка гэта будзе проста маленькая непрыемнасць, за якую могуць «паляцець» з пасады яго кіраўнікі, але пагрозы кліентам банка не ўзнікне.

**— Не маглі б вы коратка вызначыць ролю фінансавых кампаній у эканоміцы Беларусі? Бо даволі часта фінансавыя кампаніі прадстаўляюць у ролі «паразітаў», што адбіраюць «хлеб» у банкаў.**

— Перш за ўсё хачу ўдакладніць, што мы, г. зн. наша АТ «Белбізнесінвест», не «фінансавая кампанія», а ліцэнзаваны прафесіянальны ўдзельнік рынку каштоўных папер АКБ «Белбізнесбанк». Мы працуем выключна па куплі-продажы каштоўных папер. Праўда, з каштоўнымі паперамі працуюць і банкі. Тым не менш, банкі і фінансавыя кампаніі абслугоўваюць розныя сегменты рынку. Патлумачу на прыкладзе. Добры пастаўшчык тавараў мае розныя аўтамабілі: і «СуперМАЗ» для дастаўкі вялікіх партый тавару, і маленькі «пікапчык» для падвозу прадукцыі дробным кліентам. Недарэчна і неэканамічна гнаць «СуперМАЗ» з-за некалькіх каробак шырспажыву, заказаных якім-небудзь кіёскам. Так і мы: абслугоўваем дробных кліентаў, якіх «замыкаць» на наш банк не заўсёды эканамічна, а аддаваць дробным банкам-канкурэнтам не хочацца. Вядома таксама, што лягчэй рабіць грошы пры наяўнасці «вялікіх грошай». Таму маленькія банкі і фінансавыя кампаніі для атрымання дастатковага даходу, у параўнанні з буйнымі фінансавымі структурамі (у гэтым ужо пэўная перавага маленькіх банкаў вымушаны больш дынамічна працаваць, хутчэй асвойваць новыя тэхналогіі, удзяляць кліентам больш увагі. І атрымліваецца, што хоць мы арыентаваны на дробную кліентуру, з намі часта працуюць і салідныя прадпрыемствы. Дарэчы, мы — самастойная юрыдычная асоба, але наш баланс уключаецца ў кансалідаваны баланс АКБ «Белбізнесбанк», нас па некалькі разоў на год правяраюць банкаўскія аўдытары, нашы асабістыя даходы таксама рэгламентуюцца банкам. Адначасова падтрымка банка дазваляе нам заўсёды абараніць кліента ў цяжкай сітуацыі.

**— Цяпер многія беларускія прадпрыемствы імкнуцца адкрыць свае афшорныя кампаніі. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Большасць гаспадарчых структур, якія ствараюць афшорныя кампаніі, маюць вельмі добрыя шанцы «заляцець». Зразумела, што гэтыя кампаніі ствараюцца, каб ухіліцца ад падаткаабкладання. Але дзейнасць афшорных кампаній надзвычай складаная і рэгламентуецца вялікай колькасцю мясцовых законаў. У дадзеным выпадку як найлепш падыходзіць прыказка: не ведаючы броду... На самай справе, не ведаючы ўсіх дэталей, можна трапіць у вельмі непрыемную сітуацыю. У прыватнасці, можа атрымацца так, што прыйдзецца заплаціць усе падаткі дзе-небудзь у штаце Дэлавер і ў Рэспубліцы Беларусь. Даволі звычайная сітуацыя, калі прадпрымальнік адкрывае афшорную кампанію, выкладвае за яе ад 2 да 3 тысяч долараў, потым пачынае адкрываць рахункі, праводзіць плацяжы, а грошы раптам знікаюць. Нядаўна да нас прыходзіў кансультавацца прадстаўнік адной з даволі буйных фірмаў, у якой такім вось чынам прапала даволі значная сума грошай. Калі пачалі разбірацца, высветлілася, што афшорную кампанію яму афарміла нейкая не вельмі салідная юрыдычная фірма, яна ж яму прадаставіла кадзіраваны рахунак у замежным банку, з якога грошы паспяхова зніклі. Таму, калі хто вырашыў адкрыць афшорную кампанію, лепш яму самому паехаць у тую краіну, якая прадстаўляе афшор, наняць там граматнага юрыста і прасачыць па меры магчымасці, каб ён не быў звязаны з рускай мафіяй. Затым ідзіце ў добры банк і адкрывайце рахунак толькі самі. Аднак хачу папярэдзіць, што верагоднасць адкрыцця рахунку ў салідным замежным банку невядомаму прадпрымальніку з нашай краіны, па іх мерках, як з зоны павышанай небяспекі, надзвычай малая. Таму, перш чым прыняць канчатковае рашэнне, трэба спачатку ўсё падлічыць, узважыць, як лепш працаваць: самому, праз банкі або праз іншых кваліфікаваных спецыялістаў. Асабіста я не лічу для сябе ганебным звяртацца па кансультацыі ў юрыдычныя, знешнеэканамічныя фірмы, а па фінансавых пытаннях — у Нацыянальны банк і ў свой банк-заснавальнік.

Некаторыя кліенты звяртаюцца і да нас з просьбамі аб трансферы грошай за мяжу. Самі мы гэтым не займаемся, але пракансультаваць можам. Пры гэтым мы ім дакладна растлумачым ступень рызыкі тых або іншых трансферных схем, а ўжо вырашаць — справа кліента.

**— Як вы ахарактарызавалі б сітуацыю, якая склалася ў мінулым годзе на фондавым рынку рэспублікі?**

— Фондавы рынак спрабуе развівацца ў нашай краіне ўжо на працягу 5 гадоў. Створана і функцыянуе Дзяржаўная інспекцыя па каштоўных паперах, якая павінна сачыць за тым, каб развіццё фондавага рынку ажыццяўлялася ў рамках закона. Але на самай справе фондавы рынак не развіваецца з-за адсутнасці рэальнай прыватызацыі. Да таго ж кантралюючыя органы ўскладняюць яго станаўленне шляхам прыдумвання розных дадатковых абмежаванняў, забарон, дадатковых ліцэнзій на ўжо атрыманыя ліцэнзіі і гэтак далей. Між іншым, для жульніцтва на фондавым рынку, як і для жульніцтва наогул, зусім няма неабходнасці атрымліваць ліцэнзію ад дзяржструктур. Гэта наглядна паказалі фірмы, якія збіралі грошы ў насельніцтва. Дарэчы, жулікі, якія дзейнічалі ў абход кантралюючых органаў, умудрыліся дыскрэдытаваць дзейнасць сур'ёзных прадпрымальніцкіх структур на фондавым рынку.

У заключэнне хачу зазначыць: у нас пэўным чынам сфарміравалі негатыўныя адносіны да банкаў і фінансавых кампаній, што ў многім вынікае з неразумення іх ролі ў станаўленні і развіцці рынку.

Фарміраванне такога ўяўлення аб банках вяртаецца бумерангам: насельніцтва ўсё больш не давярае банкам і лічыць за лепшае захоўваць грошы ў валюце. Гэта, натуральна, адбіваецца на магчымасцях падтрымання ўстойлівасці таго ж курса беларускага рубля. Фарміраванне негатыўнага ўяўлення аб банках і фінансавых кампаніях вядзе і да з'яўлення пэўнай нервовасці ў іх дзейнасці.

Многія лічаць за лепшае знізіць актыўнасць толькі з-за таго, каб нармальныя фінансавыя аперацыі раптам не прадставілі як шкодніцтва. Гэта таксама не ідзе на карысць эканоміцы.

# «Заўсёды з вамі банк «Дукат»...»

ПАД УВАЖЛІВЫ ПОГЛЯД грамадскасці зноў трапіла банкаўская сістэма, чаму, вядома ж, пасадзейнічаў «фінансавы дыялог» Прэзідэнта і галоўнага экс-банкіра рэспублікі. Не будзем звяртацца да яго сутнасці (яна больш-менш вядомая, ды, відаць, і не ўсе кропкі тут пастаўлены), вылучым тое, што можна знайсці ў тым жа «дыялогу», увогуле нярэдка ў выступленнях на банкаўскую тэму: наколькі банкі павінны быць свабоднымі ў сваіх дзеяннях, чым кіравацца — сваімі «вузкакарыслівымі» інтарэсамі ці агульнадзяржаўнымі, а ў найбольш практычным аспекце — найперш каго яны павінны крэдытаваць: камерцыйныя ці дзяржаўныя структуры?

Прыгадаем для пачатку: банкі распараджаюцца пераважна чужымі рэсурсамі, г. зн. рэсурсамі сваіх кліентаў (у тым ліку фізічных асоб, грамадзян), якія пажадалі ў іх абслугоўвацца, і святы абавязак банкаў — распарадзіцца гэтымі рэсурсамі найбольш эфектыўна, тым больш — не страціць іх. Гэта, у рэшце рэшт, на нашу агульную карысць, а не проста асобна ўзятага прадпрыемства ці камерсанта. Аднак вядома ўжо, грошы многіх банкаў,якіх (дакладней, зноў прыгадаем, — іх кліентаў, што даверыліся ім) завіслі ў безнадзейных крэдытах, у амярцвелай прадукцыі і малаверагодна, што вернуцца.

Можна знайсці гэтаму прычыны суб'ектыўнага характару (скажам, адсутнасць часам пэўнай банкаўскай узважанасці, асцярожнасці), разам з тым, па сведчаннях банкаўскіх работнікаў, нямала калі тыя ж крэдыты накіроўвала («куды трэба») цвёрдая адміністрацыйная рука. Зрэшты, хутчэй гэта былі «рэкамендацыі...»

Мы ўжо прайшлі той этап, калі банкі ў нас былі гэткімі лічыльнымі канторамі, распараджаліся сродкамі чыста ўмоўна і накіроўвалі іх туды, куды скажуць. За гэткія, здавалася б, правільныя (на чыноўны погляд) праекты, якія абарочваліся звычайнымі пражэктамі, і адпаведныя страты не нёс адказнасці ніхто — яны спісваліся на ўсё грамадства. Таго вопыту, відаць, дастаткова. Але як бы размовамі аб удасканаленні банкаўскай сістэмы (вядома ж, удасканальваць яе трэба), разважаннямі накшталт **эфектыўнай арганізацыі фінансава-крэдытнага абслугоўвання прамысловасці, паліўна-энергетычнага комплексу, сельскай гаспадаркі** (г. зн. абслугоўвання ўвогуле) не звесці ролю банкаў да іх ранейшай ролі лічыльных кантор.

Банкі найперш павінны клапаціцца аб сваёй эфектыўнасці (гэта і будзе іх клопат аб эфектыўнасці эканомікі), кіравацца сваімі ж выгаднасцю і прыбытковасцю — пры правядзенні любых аперацый і без уліку таго, што за структуры звярнуліся да іх: дзяржаўныя ці недзяржаўныя (гэта і будзе іх клопат аб іх кліентах, якія даверылі ім свае грошы).

...«Заўсёды з вамі банк «Дукат» — гэткая кідкая рэклама і цяпер сустракае многіх на адной са станцый метро.

Цікава, што адчуваюць пры гэтым як былыя кліенты «Дуката», якія паспелі забраць з яго свае грошы, так, пакуль што, і цяперашнія, якія ўсё ніяк не выцягнуць... Хоць, зрэшты, ці ва ўсім вінаваты толькі «Дукат»?..

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

# ПАСТАНОВЫ
# ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА, НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПЫТАННЯХ, СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ, СУВЯЗЯХ З ГРАМАДСКІМІ АБ'ЯДНАННЯМІ І РЭЛІГІЙНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі ў наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Катляроў** Ігар Васільевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мар'інагорскай выбарчай акругі №203 Мінскай вобласці.

**Члены камісіі**

**Бабкоў** Анатоль Канстанцінавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бабруйскай сельскай выбарчай акругі №161 Магілёўскай вобласці.

**Гаварушкін** Станіслаў Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акругі №67 Віцебскай вобласці.

**Герасіменка** Вячаслаў Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Петрыкаўскай выбарчай акругі №110 Гомельскай вобласці.

**Дабравольскі** Аляксандр Альгертавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Пляханаўскай выбарчай акругі №227 горада Мінска.

**Дудко** Аляксандр Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Калінкавіцкай сельскай выбарчай акругі №98 Гомельскай вобласці.

**Калякін** Сяргей Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Скарынінскай выбарчай акругі №250 горада Мінска.

**Касцян** Сяргей Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мазырскай-Заходняй выбарчай акругі №106 Гомельскай вобласці.

**Малахоўскі** Анатоль Ягоравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Касцюковіцкай выбарчай акругі №169 Магілёўскай вобласці.

**Мікалуцкі** Яўген Пятровіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Круглянскай-Бялыніцкай выбарчай акругі №163 Магілёўскай вобласці.

**Нісцюк** Уладзімір Пятровіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Стаўбцоўскай выбарчай акругі №216 Мінскай вобласці.

**Пашкевіч** Іван Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Столінскай выбарчай акругі №36 Брэсцкай вобласці.

**Свірыд** Аляксандр Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ганцавіцкай выбарчай акругі №15 Брэсцкай вобласці.

**Юнчык** Леанід Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Косаўскай выбарчай акругі №21 Брэсцкай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 36-XIII

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ, САКРАТАРА І СТАРШЫНІ ПАДКАМІСІІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА, НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПЫТАННЯХ, СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ, СУВЯЗЯХ З ГРАМАДСКІМІ АБ'ЯДНАННЯМІ І РЭЛІГІЙНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі **Нісцюка** Уладзіміра Пятровіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Стаўбцоўскай выбарчай акругі №216 Мінскай вобласці.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі **Свірыда** Аляксандра Уладзіміравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ганцавіцкай выбарчай акругі №15 Брэсцкай вобласці.

3. Зацвердзіць старшынёй падкамісіі па сродках масавай інфармацыі і сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі **Дабравольскага** Аляксандра Альгертавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Пляханаўскай выбарчай акругі №227 горада Мінска.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 52-XIII

### АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПА БЮДЖЭТУ, ПАДАТКАХ, БАНКАХ І ФІНАНСАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах у наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Башарымаў** Уладзімір Сямёнавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Веткаўскай выбарчай акругі №91 Гомельскай вобласці.

**Члены камісіі**

**Астапковіч** Мікалай Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Слонімскай-Чырвонаармейскай выбарчай акругі №141 Гродзенскай вобласці.

**Багданкевіч** Станіслаў Антонавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Чкалаўскай выбарчай акругі №236 горада Мінска.

**Бусел** Мікалай Дзмітрыевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Барысаўскай-Паўднёвай выбарчай акругі №181 Мінскай вобласці.

**Бяльковіч** Віктар Фёдаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Жлобінскай сельскай выбарчай акругі №95 Гомельскай вобласці.

**Волкаў** Уладзімір Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Аўтазаводскай выбарчай акругі №220 горада Мінска.

**Гразнова** Людміла Мікалаеўна — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Захараўскай выбарчай акругі №239 горада Мінска.

**Грыгор'еў** Уладзімір Віктаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Віцебскай-Чыгуначнай выбарчай акругі №68 Віцебскай вобласці.

**Зайцаў** Павел Карпавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Крупскай выбарчай акругі №190 Мінскай вобласці.

**Зінчанка** Аляксандр Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ружанскай выбарчай акругі №35 Брэсцкай вобласці.

**Капшай** Аляксандр Яўгенавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Барысаўскай-Усходняй выбарчай акругі №180 Мінскай вобласці.

**Кіберман** Георгій Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Барысаўскай сельскай выбарчай акругі №182 Мінскай вобласці.

**Кругавы** Валерый Кадашавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лунінецкай выбарчай акругі №25 Брэсцкай вобласці.

**Кудзінаў** Уладзімір Аляксеевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Івацэвіцкай выбарчай акругі №20 Брэсцкай вобласці.

**Лапуць** Мікалай Сцяпанавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Папярнянскай выбарчай акругі №194 Мінскай вобласці.

**Ляшчынскі** Алег Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лепельскай выбарчай акругі №69 Віцебскай вобласці.

**Пракошын** Уладзімір Раманавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бабруйскай-Заходняй выбарчай акругі №160 Магілёўскай вобласці.

**Пыжык** Віктар Сямёнавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ваўкавыскай сельскай выбарчай акругі №119 Гродзенскай вобласці.

**Сечка** Леанід Ніканоравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лельчыцкай выбарчай акругі №101 Гомельскай вобласці.

**Шпілеўскі** Аляксандр Францавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бабруйскай-Мінскай выбарчай акругі №157 Магілёўскай вобласці.

**Якоўчык** Мікалай Сцяпанавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Антопальскай выбарчай акругі №17 Брэсцкай вобласці.

**Яновіч** Аляксей Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Карэліцкай выбарчай акругі №132 Гродзенскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 37-XIII

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ І САКРАТАРА ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА БЮДЖЭТУ, ПАДАТКАХ, БАНКАХ І ФІНАНСАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах **Гразнову** Людмілу Мікалаеўну — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Захараўскай выбарчай акругі №239 горада Мінска.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах **Зінчанку** Аляксандра Мікалаевіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ружанскай выбарчай акругі №35 Брэсцкай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 53-XIII

### АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫЦЫ І РЭФОРМАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах у наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Шлындзікаў** Васілій Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Матусевіцкай выбарчай акругі №253 горада Мінска.

**Члены камісіі**

**Аляксандраў** Валерый Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Віцебскай-Праўдзінскай выбарчай акругі №63 Віцебскай вобласці.

**Ананьеў** Раман Уладзіслававіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бешанковіцкай выбарчай акругі №39 Віцебскай вобласці.

**Апалонік** Аляксандр Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мастоўскай выбарчай акругі №136 Гродзенскай вобласці.

**Вараніцкі** Рыгор Гаўрылавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гомельскай-Чырвонакастрычніцкай выбарчай акругі №77 Гомельскай вобласці.

**Грунтоў** Віктар Самсонавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Віцебскай сельскай выбарчай акругі №42 Віцебскай вобласці.

**Данейка** Павел Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Нававіленскай выбарчай акругі №260 горада Мінска.

**Дылеўскі** Мікалай Іосіфавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Клецкай выбарчай акругі №189 Мінскай вобласці.

**Калугін** Пётр Аляксеевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Салігорскай-Паўднёвай выбарчай акругі №211 Мінскай вобласці.

**Клімаў** Андрэй Яўгеньевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Першамайскай выбарчай акругі №244 горада Мінска.

**Малафееў** Анатоль Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мазырскай-Усходняй выбарчай акругі №104 Гомельскай вобласці.

**Мініч** Валерый Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Жабінкаўскай выбарчай акругі №18 Брэсцкай вобласці.

**Нявесценка** Павел Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Сеніцкай выбарчай акругі №195 Мінскай вобласці.

**Палачанін** Іосіф Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Докшыцкай выбарчай акругі №45 Віцебскай вобласці.

**Панкраценка** Аляксандр Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лёзненскай выбарчай акругі №47 Віцебскай вобласці.

**Пугачоў** Мікалай Фёдаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акругі №80 Гомельскай вобласці.

**Рымарчык** Іван Сяргеевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Зэльвенскай выбарчай акругі №130 Гродзенскай вобласці.

**Цярэня** Генадзь Віктаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Сенненскай выбарчай акругі №51 Віцебскай вобласці.

**Цюцюноў** Анатолій Дзмітрыевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Аэрафлоцкай выбарчай акругі №238 горада Мінска.

**Шулякоўскі** Васіль Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Слуцкай-Ленінскай выбарчай акругі №205 Мінскай вобласці.

**Шушкевіч** Станіслаў Станіслававіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Адоеўскай выбарчай акругі №256 горада Мінска.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 38-XIII

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ І САКРАТАРА ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫЦЫ І РЭФОРМАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах **Малафеева** Анатоля Аляксандравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мазырскай-Усходняй выбарчай акругі №104 Гомельскай вобласці.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах **Данейку** Паўла Уладзіміравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Нававіленскай выбарчай акругі №260 горада Мінска.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 54-XIII

### АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА РЭГЛАМЕНТУ, МАНДАТАХ І ДЭПУТАЦКАЙ ЭТЫЦЫ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы ў наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Красуцкі** Анатоль Віктаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Трактаразаводскай выбарчай акругі №240 горада Мінска.

**Члены камісіі**

**Біч** Аляксандр Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Брэсцкай сельскай выбарчай акругі №7 Брэсцкай вобласці.

**Глухоўскі** Леанід Віктаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гомельскай-Палескай выбарчай акругі №81 Гомельскай вобласці.

**Дзямідаў** Мікалай Васільевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Аршанскай-Заходняй выбарчай акругі №57 Віцебскай вобласці.

**Кебіч** Вячаслаў Францавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Барысаўскай-Заходняй выбарчай акругі №179 Мінскай вобласці.

**Сасонка** Міхаіл Паўлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Наваполацкай-Расонскай выбарчай акругі №71 Віцебскай вобласці.

**Скок** Васіль Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ваўкавыскай гарадской выбарчай акругі №118 Гродзенскай вобласці.

**Тарасевіч** Вікенцій Іосіфавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Міёрскай выбарчай акругі №48 Віцебскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 39-XIII

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ І САКРАТАРА ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА РЭГЛАМЕНТУ, МАНДАТАХ І ДЭПУТАЦКАЙ ЭТЫЦЫ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы **Скока** Васіля Уладзіміравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ваўкавыскай гарадской выбарчай акругі №118 Гродзенскай вобласці.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы **Дзямідава** Мікалая Васільевіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Аршанскай-Заходняй выбарчай акругі №57 Віцебскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 55-XIII

### АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АХОВЕ ЗДАРОЎЯ, ФІЗІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ І СПОРТУ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту ў наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Белякоў** Уладзімір Леанідавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мсціслаўскай выбарчай акругі № 171 Магілёўскай вобласці.

**Члены камісіі**

**Александровіч** Уладзімір Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мендзялееўскай выбарчай акругі №241 горада Мінска.

**Енка** Яўген Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лідскай-Чырвонаармейскай выбарчай акругі №133 Гродзенскай вобласці.

**Завадскі** Анатолій Анатольевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Наваполацкай-Маладзёжнай выбарчай акругі №70 Віцебскай вобласці.

**Лектараў** Валерый Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Полацкай сельскай выбарчай акругі №50 Віцебскай вобласці.

**Леўшык** Станіслаў Станіслававіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Воранаўскай выбарчай акругі №120 Гродзенскай вобласці.

**Пабяржын** Збышак Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Крычаўскай выбарчай акругі №170 Магілёўскай вобласці.

**Попчанка** Алег Дзмітрыевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Жлобінскай-Чыгуначнай выбарчай акругі №97 Гомельскай вобласці.

**Рожка** Валянцін Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гродзенскай сельскай выбарчай акругі №127 Гродзенскай вобласці.

**Рудэнка** Віктар Пятровіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бараўлянскай выбарчай акругі №193 Мінскай вобласці.

**Руммо** Алег Васільевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Слуцкай-Маладзёжнай выбарчай акругі №206 Мінскай вобласці.

**Целябук** Ніна Пятроўна — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Жодзінскай-Аўтазаводскай выбарчай акругі №208 Мінскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 40-XIII

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АХОВЕ ЗДАРОЎЯ, ФІЗІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ І СПОРТУ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту **Пабяржына** Збышака Іванавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Крычаўскай выбарчай акругі №170 Магілёўскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г.Мінск. № 56-XIII

# ШТО ДАЛО УКРАІНЕ ЧЛЕНСТВА Ў САВЕЦЕ ЕЎРОПЫ?



**19 кастрычніка 1995 г. Камітэт Міністраў Савета Еўропы прыняў рэзалюцыю аб запрашэнні Украіны ў гэтую еўрапейскую арганізацыю, прыёме 12 яе дэпутатаў у Парламенцкую асамблею СЕ і зафіксаваў квоту ўдзелу яе ў бюджэце Савета Еўропы. Апошні склаў 1,69 працэнта, што ў 1995 годзе было адэкватна прыблізна 3,2 мільёна долараў ЗША. У студзені гэтага года ўкраінскія дэпутаты ўдзельнічалі ў сесіі Парламенцкай асамблеі ўжо як паўнапраўныя яе члены.**

Жоўта-блакітны дзяржаўны сцяг Украіны быў узняты ля Палаца Еўропы ў Страсбургу 38-м па ліку і заняў месца (згодна з алфавітам) перад сцягам Вялікабрытаніі (United Kingdom). У Савеце Еўропы адкрылася пастаяннае прадстаўніцтва Украіны, якое ўзначаліў Аляксандр Купчышын, а ў зале Парламенцкай асамблеі з'явілася шматлікая ўкраінская дэлегацыя.

Зімовая сесія Савета Еўропы была для ўкраінскіх дэпутатаў першай, дзе яны бралі ўдзел у абмеркаванні праблем і галасаванні. Відаць таму, што рабілі гэта ўкраінцы вельмі сур'ёзна, на пасяджэнні хадзілі дысцыплінавана, былі яны даволі прыметнай групай у Савеце Еўропы. З 12 месцаў ва ўкраінскай дэлегацыі 2 маюць прадстаўнікі камуністаў, 1 — Руху, рэшта палітычных фракцый і груповак украінскага парламента таксама па аднаму. Натуральна, што большасць у гэтай групе належыць левым сілам (8 мандатаў), меншасць — правым (4). Кіраўнік украінскай дэлегацыі ў ПАСЕ, прадстаўнік кампартыі Украіны і вядомы пісьменнік Барыс Алейнік, выказвае шкадаванне, што пры фарміраванні дэлегацыі ўзялі верх партыйныя амбіцыі, а не прынцып кампетэнтнасці. Таму часам у працы парламентарыяў узнікаюць праблемы. У прыватнасці, моўныя. Вядома, што людзі з былога СССР дрэнна валодаюць заходнееўрапейскімі мовамі (у першую чаргу англійскай і французскай), і дэпутаты не выключэнне. Таму ўкраінская дэлегацыя прывезла з сабой на зімовую сесію Парламенцкай асамблеі двух перакладчыкаў, якіх, зразумела, не ўсім хапае, і ў якіх-кольвечы сустрэчах, пасяджэннях палітычных груп і камітэтаў асамблеі ўкраінскія дэпутаты былі часам проста выключаны з размовы. «Што ж, будзем самі падвучваць замежныя мовы», — зазначае Б. Алейнік. Ён, як і некаторыя яго калегі, выступаючы на агульным пасяджэнні Парламенцкай асамблеі, некалькі разоў карыстаўся ўкраінскай мовай, і штатныя перакладчыкі Савета Еўропы без асаблівых праблем перакладалі іх выступленні на 6-7 еўрапейскіх моў, у тым ліку на рускую. Такім чынам узнімаецца прэстыж украінскай мовы і Украіны.

У адказах на пытанне: «Што ж дало Украіне членства ў Савеце Еўропы?» украінскія парламентарыі ў першую чаргу падкрэслівалі менавіта гэтае паняцце: прэстыж украінскай дзяржавы.

— Сам факт аднагалоснага прыняцця Украіны ў Савет Еўропы з'яўляецца вельмі важным для прызнання нас як абсалютна незалежнай і дэмакратычнай краіны, — гаворыць лідэр Руху Вячаслаў Чарнавіл. — Я думаю, што ў выпадку нейкага ціску на Украіну з боку... каго-небудзь, каго б там ні было, мы маем у пэўнай ступені адносна надзейную абарону ад Савета Еўропы, бо адна справа — двухбаковыя дыпламатычныя адносіны, іншая — уключэнне нашай дзяржавы ў сям'ю еўрапейскіх народаў. А па-другое, гэтае членства дае вялікі міжнародны прэстыж для Украіны, акрамя таго, магчымасць рэалізоўваць на сваёй тэрыторыі пэўныя праграмы Савета Еўропы, у тым ліку і эканамічныя. Па-трэцяе, адбываецца ўзмацненне кантактаў на міжнародным узроўні. Мы, акрамя чатырох штогадовых сесій у Страсбургу, збіраемся ў камітэтах, дзе кантакты больш шчыльныя і карысныя...

Кіраўнік украінскай дэлегацыі Барыс Алейнік акцэнты расставіў крыху інакш:

— Уваходжанне ў еўрапейскія арганізацыі дае ў пэўнай ступені і гарантыю тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, недатыкальнасці яе межаў. Бо Савет Еўропы будуецца як бы на сямейным прынцыпе: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Прысутнасць Украіны ў Савеце Еўропы — гэта безумоўнае прызнанне яе як прававой дэмакратычнай краіны. А паколькі яна дэмакратычная і прававая, то яна і больш прагназіруемая, скажам, для інвестараў. І гэта мае сур'ёзнае значэнне. Акрамя ўсяго іншага, цяпер кожны грамадзянін нашай дзяржавы, калі яго не задавальняюць праваахоўныя органы дома, можа звяртацца непасрэдна ў Еўрапейскі суд па правах чалавека, дабівацца свайго... Ну, і апроч гэтага ў нас вядзецца праца над «падцягваннем» заканадаўства да ўзроўню еўрапейскіх стандартаў.

Перад Украінай цяпер стаіць на парадку дня пытанне аб адмене смяротных прысудаў. Аднак, як зазначае Б. Алейнік, «мы не ўзялі на сябе смеласці схлусіць перад сусветнай супольнасцю і заявіць, што пойдзем на гэта адразу, трэба яшчэ пераканаць наш народ». Спачатку Украіна ўвядзе, відаць, мараторый на прывядзенне смяротных прысудаў у выкананне, адменіць адпаведныя артыкулы ў крымінальным кодэксе...

— Для нас галоўнае прабіць акно ў Еўропу, увайсці ў міжнароднае супольніцтва ў эканамічным і палітычным плане і абараняць інтарэсы Украіны ў міжнародных інстытутах і арганізацыях, — адзначае іншы ўкраінскі парламентарый, Валерый Чэрап, член Прэзідыума Вярхоўнай Рады Украіны. Ён ацэньвае дзейнасць украінскіх прадстаўнікоў у камісіях, палітычных групах і камітэтах, на сесіі Парламенцкай асамблеі пазітыўна.

Падчас абмеркавання расійскай заяўкі на прыняцце ў Савет Еўропы ўкраінская дэлегацыя падзялілася. Левыя, на чале з Б. Алейнікам, выступалі за тое, каб, нягледзячы на ўсе праблемы Расіі, прыняць яе ў састаў Савета Еўропы, правыя, на чале з В. Чарнавілам, былі супраць. Пры поіменным галасаванні яскрава высветлілася партыйная раскладка: 8 (левых) — «за» прыняцце Расіі, 2 (правыя) — «супраць» і 2 устрымаліся...

Мечаслаў Грыб, прадстаўнік беларускага парламента, які быў на сесіі Парламенцкай асамблеі ў якасці спецыяльнага запрошанага ў саставе нашай парламенцкай дэлегацыі, зазначыў, што вопыт Украіны, прынятай мінулай восенню ў СЕ, вельмі карысны і для Беларусі, якая таксама мае намер стаць членам Савета Еўропы.

Аднак пакуль што, паводле слоў В. Чарнавіла, «у сувязі з пэўнымі падзеямі ў Беларусі, праблема ўступлення вашай краіны ў Савет Еўропы неактуальная, прынамсі, у палітычным камітэце ПАСЕ ў планах работы на бліжэйшы час гэта не значыцца».

А вось Валерый Чэрап, наадварот, думае, што ўжо восенню гэта можа стаць рэальнасцю, Беларусь увальецца ў еўрапейскую сям'ю. «Сёння з'яўляюцца меркаванні, прынамсі ў тых дэпутатаў, з якімі я абменьваўся думкамі, што гэта будзе так, ніводзін з іх не пярэчыў супраць таго, каб Беларусь стала членам Савета Еўропы. На мой погляд, у Беларусі ёсць усе ўмовы, каб яе можна было прыняць, гэта аб'ектыўна», — лічыць В. Чэрап.

Такім чынам, Беларусі, ідучы ў Савет Еўропы, будзе ўжо на каго абаперціся, улічваючы вопыт прыняцця і дзейнасці там Украіны і Расіі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Страсбург—Мінск.*

ПОГЛЯД

# ЦІ ПАГРАЖАЕ ТЭРАРЫЗМ БЕЛАРУСІ?

**Серыя тэрарыстычных актаў чачэнцаў супраць Расіі (захоп заложнікаў у Кізляры—Першамайскім, марскога парома, персаналу Грозненскай ЦЭЦ) выклікала трывогу ў многіх жыхароў Беларусі. Цяпер шмат хто ў нас падазрона пазірае на іншага госця так званай «каўказскай нацыянальнасці», калі той заходзіць у аўтобус. Ці варта баяцца нам?**

Летась ва ўсім свеце назіраўся сапраўдны ўсплёск тэрарызму. Экстрэмісты ўзарвалі будынак у самым сэрцы Амерыкі, у Аклахома-Сіці, у выніку чаго загінула 275 чалавек, шмат дзяцей. Ісламскія фундаменталісты спрабавалі зруйнаваць Сусветны гандлёвы цэнтр і будынак ААН у Нью-Йорку.

Пагрозаю тэрарызму напалоханы таксама японцы пасля таго, як секта «АУМ сенрыкё» вырашыла наблізіць канец свету. У выніку атруцілася некалькі тысяч чалавек.

Парыжскія урны для смецця сёння заткнуты, хаця «сталіца свету» ўжо даўно і так не вызначаецца чысцінёй. Французскія ўлады вырашылі лепей перасцерагчыся: занадта часта паліцыя знаходзіла бомбы ў смецці. Выбух бомбы на станцыі метро «Шатле» ў двух кроках ад Луўра і Сабора Парыжскай Божай Маці быў не выпадковы. Праз некалькі месяцаў яшчэ адзін зарад узарваўся ў скорасным цягніку, якім так ганарыцца Францыя і выява якога неўзабаве з'явіцца на новай еўрапейскай валюце «еўра». Ісламскі след тут найбольш верагодны.

У Італіі выбухі грымяць перыядычна. Прычым злачынцы не спыняюцца нават перад такімі скарбамі нацыянальнай спадчыны, як галерэя Уфіцы ў Фларэнцыі (там захоўваюцца найвялікшыя шэдэўры нацыянальнага мастацтва). Сярод вінаватых выявіліся і італьянскія спецслужбы (якія павінны былі б ахоўваць жыццё грамадзян!). Яны арганізоўвалі тэракты, каб скампраметаваць тую ці іншую арганізацыю, выклікаць нестабільнасць, не дапусціць апазіцыю да ўлады.

Краіна, дзе з тэрарызмам звыкліся, хоць і не скарыліся, — Ізраіль. Найбольш жахлівыя здарэнні мінулага года: атака палесцінца-камікадзе на аўтобус, дзе было шмат дзетак і, безумоўна, забойства прэм'ер-міністра краіны, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Іцхака Рабіна яўрэем, які выступаў супраць мірных дамоваў з палесцінцамі. У Палесціне знаходзіцца адна з самых старадаўніх і спрактыкаваных у тэрарызме арганізацый — «Хамас». Як і шэраг іншых ісламісцкіх арганізацый ад Алжыра да Таджыкістана, яна лічыць, што ўсе метады прыдатныя, калі вядзецца джыхад — «святая вайна за веру».

Дзе вайна — там і тэрарызм, асабліва калі гэта ўнутраная, грамадзянская вайна. У першую чаргу гінуць тыя, хто займае высокае, уплывовае становішча ў грамадстве — палітыкі, ваенныя, гаспадарнікі, суддзі, журналісты.

Дзе ўціскаюцца правы нацыянальных меншасцей, дзе народам не даюць незалежнасці, — там грымяць выбухі. Курды, напрыклад, вядуць барацьбу на тры франты: супраць Турцыі, Ірака і Ірана.

«А што мы можам рабіць, калі нас спачатку труцяць хімічнай зброяй, а пасля трушчаць нашы халупы бульдозерамі?» — рытарычна пытаецца адзін з курдскіх лідэраў. Курды абралі тыповую тактыку: яны імкнуцца нанесці Турцыі максімальны эканамічны ўрон, нападаючы на ўсё турэцкае: самалёты, офісы турэцкіх фірмаў за мяжой, курорты, — каб бізнесмены не мелі спраў з рызыкоўным турэцкім партнёрам. Трэба чакаць, што такую ж тактыку будуць выкарыстоўваць і чачэнцы.

Нацыянальныя інтарэсы любой вялікай дзяржавы, як ні круці, а закранаюць яшчэ чыесьці інтарэсы. За веліч трэба расплачвацца: і Расія, і Індыя, і Францыя, і Амерыка маюць шмат непрыяцеляў. Затое маленькія дзяржавы цэнтра і ўсходу Еўропы з тэрарызмам практычна незнаёмы.

Беларусь наогул, дзякуй Богу, застаецца адной з найбольш стабільных дзяржаў Еўропы: тэрактаў тут не чулі недзе ад самага 1950 года. Гэтак жа і ў скандынаўскіх, цэнтральнаеўрапейскіх краінах. Нават вайна ў Харватыі і Босніі-Герцагавіне не выклікала росту тэрарыстычнай дзейнасці ў суседніх дзяржавах.

Напружанасці спрыяе суседства багацця і жабрацтва ці то ў выніку прысутнасці імігрантаў (арабы — у Францыі, курды — у Германіі, бежанцы — у Азербайджане), ці то сацыяльнай няроўнасці (галеча сялянства ў Мексіцы, Перу, шматлікія рэвалюцыйныя рухі мінулага).

Як толькі пустазелле тэрарызму ўчэпіцца за нейкі край, ужо цяжка даць яму рады. Апроч таго, яно раз'ядае ўсе сферы грамадства: да яго звяртаюцца тыя, хто мусіў бы з ім змагацца, на яго спасылаюцца, хаваючы ўласныя заганы і недаробкі. Так было ў бакінскім метро, калі адказныя асобы паспяшаліся перакінуць на армянскіх баевікоў уласную няздольнасць. Абясцэньваюцца каштоўнасці, жыццё губляе вартасць, дыскрэдытуюцца рэлігіі, ніводная з якіх не мае нічога агульнага з экстрэмізмам.

Можна быць упэўненым, што калі беларусы ўстрымаюцца ад паездак у небяспечныя рэгіёны свету, а таксама ад карыстання паслугамі транспартных кампаній краін, што церпяць ад тэрарызму, яны могуць не хвалявацца.

**Андрэй ДЫНЬКО.**

Ангела МЕРКЕЛЬ:

# «ДЛЯ МЯНЕ ВЕЛЬМІ ВАЖНА САМОЙ УБАЧЫЦЬ ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ ЗОНУ»

**Адбыўся бліц-візіт федэральнага міністра па пытаннях навакольнага асяроддзя і бяспекі ядзерных рэактараў Германіі доктара Ангелы Меркель на Беларусь**

Сёння, калі вы чытаеце гэтыя радкі, энергічная пані Меркель ужо на Украіне. Магчыма, у Славуцічы ці на Чарнобыльскай АЭС. Учора ў першай палове дня яна наведала Гомельскую вобласць, сустрэлася з мясцовымі ўладамі, медыкамі, спецыялістамі па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, людзьмі, якія жывуць у забруджанай радыенуклідамі мясцовасці.

У Вене з 8 па 12 красавіка г. г. адбудзецца міжнародная канферэнцыя МАГАТЭ, якая будзе прысвечана сумнаму юбілею — 10-годдзю катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Пані Меркель мае самае непасрэднае дачыненне да гэтай канферэнцыі — яна яе старшыня. Таму візіт федэральнага міністра да нас у першую чаргу, як ахарактарызаваў яго супрацоўнік пасольства ФРГ, з'яўляецца інфармацыйным. Гэта значыць, што Меркель прыехала на Беларусь з мэтай на свае вочы ўбачыць наступствы чарнобыльскай аварыі менавіта ў раёнах, якія найбольш пацярпелі ад радыяцыі.

У Мінску яна доўга не затрымалася. Прыляцела ў мінулую нядзелю, вечарам мела гутарку з віцэ-прэм'ерам Сяргеем Лінгам і ў панядзелак, недзе ў шэсць гадзін раніцы, вылецела ў Гомель. Разам з ёй туды накіраваліся некалькі высокапастаўленых служачых міністэрства, якое яна ўзначальвае, а таксама прадстаўнікі міністэрства замежных спраў ФРГ, 15 нямецкіх тэлежурналістаў і газетчыкаў.

Паездка ў чарнобыльскую зону — ініцыятыва самой пані Меркель. У час кароткай гутаркі з журналістамі яна адзначыла, што ў 1986 годзе, калі здарылася гэта страшэнная аварыя, у Еўропе далёка не ўсе, у тым ліку і палітыкі, удзялілі належную ўвагу выбуху рэактара Чарнобыльскай станцыі.

— Я тады жыла ў ГДР. І наш кіраўнік Хонекер супакойваў яе жыхароў размовамі, што, маўляў, нічога небяспечнага не адбылося. Ён казаў: дастаткова добра памыць перад ядой салату, іншую агародніну і ўсё будзе ў парадку. Але вынікі аварыі аказаліся надзвычай сур'ёзнымі. Яны і сёння хвалююць жыхароў Германіі, выклікаюць у іх спачуванне да ахвяр Чарнобыля, асабліва да дзяцей. Тысячы беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак прайшлі ў ФРГ курс аздараўлення, многія ў вас атрымалі гуманітарныя пасылкі. Гэта дапамога будзе працягвацца, — гаварыла пані Меркель.

На пытанне, чаму яна асабіста прыляцела ў Беларусь і аб чым менавіта хоча тут даведацца, пані Меркель адказала:

— Я па адукацыі фізік. Прывыкла працаваць дакладна, грунтоўна, апераваць праверанымі данымі і інфармацыяй, глыбока унікаць у сутнасць праблемы ці з'явы. Здавалася, усё тое, што мне трэба ведаць пра вынікі Чарнобыля, я магла атрымаць у сябе дома.

Мае падначаленыя падрыхтавалі б поўную інфармацыю на гэту тэму. Але для мяне акрамя статыстыкі і вывадаў спецыялістаў таксама вельмі важна сустрэцца з чарнобыльцамі, зірнуць ім у вочы, даведацца пра іх пачуцці і думкі. Мне цікава і тое, якія яны пытанні будуць задаваць, якія ўзнімуць праблемы.

І яшчэ адну слушную думку выказала федэральны міністр: нельга ў дыскусіях вакол глабальных праблем забываць пра наступствы чарнобыльскай катастрофы для чалавецтва. Да пачатку канферэнцыі ў Вене засталося не так ужо шмат часу. Хочацца спадзявацца, што сустрэчы яе старшыні пані Меркель на беларускай і ўкраінскай зямлі будуць садзейнічаць эфектыўнай працы гэтага міжнароднага форуму.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У горадзе Тэлен жыве Расіта Мендоса. Гэта дзяўчына, несумненна, можа прэтэндаваць на тытул генія. Ва ўзросце двух з паловай гадоў Расіта навучылася чытаць, а ў тры гады прачытала сваю першую кнігу — раман Ж. Санд «Кансуэла». А ў сем гадоў Мендоса-малодшая скончыла мясцовы каледж. Зараз васьмігадовая Расіта вучыцца ўжо на другім курсе матэматычнага факультэта універсітэта Буэнас-Айрэса. Вучыцца паспяхова. А вярнуўшыся дадому, Расіта гуляе ў лялькі: яна ж яшчэ дзіця.

**«Кроніка»**

Як лічыць група даследчыкаў, бой званоў «падаўляе» вірусы грыпу, жаўтухі і іншых інфекцый. Яго не вытрымлівае малекулярная структура хваробатворных мікробаў. Калі ў пакоі паставіць нават маленькія званы, то пры іх гучанні ў клетках згортваецца бялок. Напрыклад, вірусы, якія развіваюцца ў чашачках Петры, ператвараюцца ў крышталічныя структуры і не нясуць ужо заразы.

Зроблена выснова, што кожны вірус абясшкоджваецца ў сваім гукавым дыяпазоне. Вучоныя атэісты здзіўлены: як многа стагоддзяў назад нашы продкі маглі даведацца, супраць якой эпідэміі эфектыўныя тыя або іншыя тэмбры званоў? Веруючыя, зразумела, не сумняваюцца: гэтыя веды — ад Бога.

**«Не может быть»**

На радасць курганскім аматарам розыгрышаў у горадзе адкрыўся магазін для жартаўнікоў.

Усяго за 24 тысячы рублёў тут можна купіць якое-небудзь паскудства або смешную рэч — дэзадарант з дрэнным пахам, нож, якім нічога немагчыма разрэзаць, знікаючае чарніла, слоік газіраванай вады, які б'е токам, або прыгожыя сківіцы.

**«Труд».**

Сяргей ГРАХОЎСКІ

# ПРАДМОВА ДА РАЗМОВЫ

І ў час незразумела тлумны
Жыццё ўсё ж — дзівосны цуд,
Таму вясёлы верш і сумны
Выношу на суровы суд.
АЎТАР

## У ЗАВІРУХУ

Заблудзіўся ў завірусе,
І дарогу не знайду,
Крыллем лебедзі і гусі
З ног збіваюць нахаду,

Замятаюць белым пухам
І сцяжынкі, і шляхі.
У такую завіруху
Я, аслеплы і глухі,

З'ехаў у сумёт з узгорка
Неспадзеўна на спіне,
Але нечакана зорка
Паказала сцежку мне.

Як даплёўся, невядома:
Сілы болей не стае...
Рассмяяўся, калі дома
Не пазналі і свае.

*28.01.96 г.*

## ПЯСОЧНЫ ГАДЗІННІК

***Мы молим об одном: не обмани.***
***Когда-нибудь мы станем вновь людьми.***
**О. Берггольц**

Час, нібыта пясочны гадзіннік:
За пясчынкай пясчынка плыве
І падводзіць бязлітасны вынік
У душы і ў сівой галаве.

Колькі ў ёй трагедыйных
сюжэтаў,
Пакалечаных лёсаў крутых
Лесарубаў, вучоных, паэтаў,
Незабыўных, забытых, святых.

Не лічыце паспешнасць віною,
Што шукаю дарэмна сляды
Тых, што зніклі, што знікнуць
са мною
Назаўжды, назаўжды, назаўжды.

Дні за днямі плывуць, як пясчынкі,
Патрабуе сумленне: «Пішы
Пра балючыя ў сэрцы гарчынкі
І глыбокія раны душы,

І пра час і суровы, і люты
Гучных маршаў, прыгожай маны,
Калі тым, хто зганяў на пакуты,
Нехта шчодра даваў ардэны.

А Герой, што ў свінцовым пажары
Страціў ногі, сям'ю і спакой,
На халодным дрыжыць тратуары
З пачарнелай прасцёртай рукой.

Боль апоўначы і на світанні
Не суцішыўся і не ачах,
І праклятай мінуўшчыны здані
Праплываюць часамі ў вачах.

Веру ў час, калі шчодрая глеба
Скіне атамны чад і луску...
Мне ў дарогу нічога не трэба,
Толькі жменька сухога пяску.

## СУСЕДКА *(жарт)*

Ты пастукалася ў шыбу,
Папрасілася: «Пусці.
Ключ згубіла і ў сялібу
Не магу ніяк зайсці.
А на вуліцы завея
Студзіць сэрца і душу.
Адчыняй хутчэй. Цябе я,
Як збавіцеля прашу.
Адагрэю толькі рукі,
Сэрца сэрцам апяку...
Ноч такую і унукі
Не прыпомняць на вяку.
Адчыняй хутчэй, бо гіну
У завею пад вакном.
Ну, хоць толькі на гадзіну
Упусці ў свой цёплы дом». —
— «Што ты! Поўнач празванілі
Ўсе куранты і званы,
А ў мяне падлога ў пыле, —
Ні радна, ні прасціны,
Каб з табой разгарадзіцца.
Ложак у мяне ж адзін». —
— «Не спатрэбіцца граніца
Мне на некалькі гадзін.
Не калець жа мне на сцюжы...»
— «Ну, заходзь, заходзь хутчэй.
Ведаю, як жыць без мужа
З полымем такіх вачэй». —
Упусціў, адхукаў рукі,
Шчокі, вусны адагрэў.
Потым ад яе навукі
Ледзь на год не пастарэў.
З боку ў бок мяне вадзіла,
А яна, як макаў цвет,
Усміхалася так міла,
Што здаваўся раем свет.
Потым села на калені,
Прашаптала: «Не маўчы...
Ой, глядзі ты, у кішэні
Адшукаліся ключы».

*1994 г.*

*Зміцру КЕРНАЖЫЦКАМУ*

## АПОШНІ ЗЯМЛЯК

Даўно нічога не пазнаць,
Ні тых лугоў, ні тую сцежку,
Дзе красавала сенажаць,
Палацы сталі ў перамешку.

Тут новы, незнаёмы люд,
Гайсае, круціцца, хітруе,
Амаль з нічога творыць цуд,
А мой зямляк усё гаруе,

Вясною, летам і зімой,
Нібыта вартавы нязменны,
Пакутуе равеснік мой,
Слабы, трывушчы і сумленны,

Век дажывае без радні,
Не можа толькі жыць без працы.
Як частаколы, працадні
Яму і сніліся, і сняцца,

А сыты малады сусед
Наеў мурло і хіб на карку
І ў блізкі, і ў далёкі свет
Сваю ганяе іншамарку.

Мяне і земляка майго
Зямелька ўкрые пухавая,
І не вядома, хто каго
І правядзе, і пахавае.

*28/І 96.*



## ДОМ ЛІТАРАТАРА

***8 лютага, чацвер 18.30 Вялікая зала*** Першы беларус у Краіне ўзыходзячага сонца. Вечар памяці вучонага-філолага, падарожніка і дыпламата Восіпа Гашкевіча

***14 лютага, серада 18.30 Вялікая зала*** Вечарына, прысвечаная 90-м угодкам вядомага гісторыка Мікалая Улашчыка

***22 лютага, чацвер 18.30 Вялікая зала*** «Мой белы дзень» Аўтарская вечарына Ніла Гілевіча

***27 лютага, аўторак 15.00 канферэнц-зала*** Секцыя прозы

***27 лютага, аўторак 18.30 Вялікая зала*** Прэм'ера дакументальнага фільма рэжысёра Сяргея Лук'янчыкава па сцэнарыю Рыгора Барадуліна «Акафіст Уладзіміру»

***28 лютага, серада 15.00 Канферэнц-зала*** Секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва

***29 лютага, чацвер 18.30 Вялікая зала*** Галасы Прыдзвіння Вечарына сяброў Полацка-Глыбоцкай літаратурнай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў

***Сардэчна запрашаем!***

**Мінск, вул. Фрунзе, 5. Тэл. 36-09-09. Уваход вольны.**

## Тэлебачанне 6 лютага

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 4-ы клас. Янка Маўр. Аповесць «ТВТ». **9.20** «Вестгейт». Тэлесерыял. **10.15** «Кошка, якая гуляла сама па сабе». Мультфільм. **11.30** «І шчасце, і годнасць, і слава». Да 250-годдзя кіраўніка паўстання 1794 года на Беларусі і Літве Тадэвуша Касцюшкі. **12.10** «Музыка без межаў». Музычна-інфармацыйная праграма. **12.50** «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 5-я серыя «Сумёты на дарогах». **15.00** Навіны. **15.15** Гандлёвы дом. **15.30** «Мастак Аляксандр Іваноў», «Памяці зруйнаваных дамоў». Дак. фільмы. **16.20** Тэлебачанне — школе. 6-ы клас. Роля музыкі ў жыцці чалавека. **16.50** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей». **17.10** «Краіна цудаў». Тэленарыс. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Дзень добры, людзі!» Дак. фільм. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Гарачае лета 41-га». Да 55-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. **19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Катрын Дэнёў у маст. фільме «Індакітай» (Францыя). 2-я частка. **23.20** Тэлеанонс. **23.25** «Супергол». Агляд матчаў еўрапейскіх футбольных чэмпіянатаў. **24.00** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.45** Навіны. **8.15** «Сакрэт Трапіканкі». **9.05** «Мы». Аўтарская праграма У. Познера. **9.45** Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян. **10.15** «Дзяўчынка і леў». Мультфільм. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **14.20** Страшная сіла. **14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.50** Мульцітролія. **15.10** Чароўны свет, ці Сінема. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.00** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Сем дзён спорту». **17.20** «Сакрэт Трапіканкі». **10.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** «Тэма». **19.45** «Добрай ночы, малышы!». **20.00** Час. **20.30** «Аперацыя». **20.40** Рэклама. **20.50** Леў Свердлін у камедыі Якава Пратазанава «Насрэддзін у Бухары». **22.25** Масква—Крэмль. **22.55** «50х50». Тэлешоу. **23.45** «Т.С.Н.» («Тэлевізійная служба навін»).

### Канал «Расія»

**6.30** Час дзелавых людзей. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі. **7.25** Патрабуюцца... **7.30** «Што дзень наступны...» **7.35** Рытміка. **9.50** Ключавы момант. **10.20** Міліцэйская хроніка. **10.30** Музычны экспромт. **10.40** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **11.10** Новая лінія. **11.25** Чэмпіянат свету па біятлоне. Камандныя гонкі. Трансляцыя з Германіі. **13.55** Біятлон. Камандныя гонкі. Жанчыны. **15.10** Там-там навіны. **15.25** «Адысея». Маст. фільм (Канада). **15.50** Каляндар. **16.20** Новая лінія. **16.50** Кліпантракт. С. Лазарава. **16.55** Ваша права. **17.10** Музыка на дэсерт. «Малахітавая шкатулка». **17.25** Вуснамі дзіцяці. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Мэкі-Нож». Маст. фільм (ЗША). **21.45** Экран крымінальных паведамленняў. **22.30** Рака часу. **22.35** Аўтаімгненне. **22.40** Рэк-тайм. **22.55** «Спрут-5». 8-я серыя.

### НТБ

**17.00** Кінатэарт юнага гледача. «Цудоўныя гады». 72-я серыя (ЗША). **17.30** «У пошуках прыгод». **18.00, 21.00, 23.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Свет Кіно. Міхаіл Барышнікаў і Джын Хэкман у фільме «Справа фірмы» (ЗША). **20.40** «ТЭФІ-96»: хто ёсць хто. **21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 24-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.20** Меламанія: «Роксі М'юзік».

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ. **12.10** «Гром у раі». Маст. фільм. **13.00** Хуткая дапамога. **13.30** Парады садаводам. **13.40** Наша кіно. «Свабодная ад мужчын». **14.55** Экспрэскіно. **15.10, 18.55, 22.20** Музычны момант. **15.15** Стыль жыцця. **15.40** «Нямецкая хваля». **16.00** «Дом кіно» прадстаўляе Анджэя Вайду, Кшыштафа Занусі, Даніэля Альбрыхскага, Гражыну Шапалоўску і іншых. **16.30** Дзецям пра зверанят. **17.00** Па ўсёй Расіі. **17.10** Паказвае Ленінградская АТК. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўныя навіны. **19.00** «Гром у раі». Маст. фільм. **19.50** Тэлеслужба бяспекі. **20.00** «Колер граната». Маст. фільм (Арменія). **21.15** Гістарычны альманах. **22.00** Спорт, спорт... **22.10** Дзень нараджэння. **22.25** «Баль». Тэлеспектакль па матывах твораў А. С. Пушкіна.




**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 113326. Індэкс 63850.**
**Зак. № 589.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 . 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 . 6 7 8 9 10 11 12**